ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 38 (2500)
ПЯТНІЦА
19
чэрвеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Ала Аншалевіч (16 гадоў. Мінск). «БУДЗЁНАВЕЦ». Гліна.



Валерый Сакольчык (14 гадоў. Мінск). «МЯДЗВЕДЗЬ». Разьба па дрэве.



Віця Трафімаў (13 гадоў. Гомель). «ДАЧА «ВАЗА» У КУАКАЛА». Інкрустацыя па дрэве.

**Нататкі журналіста А. Белавусава з 22-й Рэспубліканскай выстаўкі дзіцячай творчасці чытайце на стар. 13.**

**ПРАБЛЕМЫ ВЫХАВАЎЧАГА ПРАЦЭСУ Ў БЕЛАРУСКАЙ КАНСЕРВАТОРЫІ — ПРАДМЕТ РОЗДУМУ А. ГАНТМАНА.**

**Яго артыкул «Тут развінаюцца крылы» чытайце на стар. 4.**



Беларуская дзяржаўная кансерваторыя — кузня музычных кадраў рэспублікі.

**«У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ»...**

**Сёння пад гэтай рубрыкай мастацтвазнаўца Б. Крэпак расказвае аб творчасці заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Л. Лейтмана [стар. 14].**



Л. Лейтман. «Днепр. Вугальная ветка». Акварэль.

**КРЫЛАТЫМІ ПУШКІНСКІМІ СЛОВАМІ — «ПАЛЁТ, ШТО ВЫКАНАН З ДУШОЙ...» —**

**назваў нарыс пра народную артыстку БССР Ніну Давыдзенка крытык М. Модэль [стар. 8].**



Н. Давыдзенка — Адылія.

Аскар ГАНТМАН

# ТУТ РАЗВІНАЮЦЦА КРЫЛЫ

КАЛІ вы запытаеце ў мінчаніна, колькі плошчаў у сталіцы, ён вам, можа, і не адкажа, але абавязкова ўспомніць, што ёсць тры музычныя плошчы—імя Парыжскай камуны, на якой працуе Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР, імя Я. Коласа, дзе філармонія, і, нарэшце, плошча Свабоды: там — Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя А. В. Луначарскага, музычнае вучылішча і Саюз кампазітараў БССР.

Мінск — горад высокай музычнай культуры. І не толькі таму, што ёсць у нас гэтыя плошчы і ўстановы. Прасочым хоць бы за датамі стварэння музычных установ, каб яшчэ на адным прыкладзе пераканацца ў тым, што Савецкая ўлада стварыла ўмовы для эстэтычнага выхавання нашага народа. Мінскае музычнае вучылішча адкрыта ў 1924 г., музычная школа (цяпер Рэспубліканская дзесяцігодка)—у 1926 г., оперная студыя—у 1930 г., кансерваторыя — у 1932 г., тэатр оперы і балета—у 1933 г., філармонія—у 1936 г. Цяпер у Беларусі ёсць дзесяць музычных вучылішчаў і 157 музычных школ. Яны ствараюцца і ў гарадах, і на вёсцы. Адкрываюцца новыя школы і пры домакіраўніцтвах...

СВОЕАСАБЛІВЫМ штабам музычнага выхавання, кузняй кадраў, якія потым бяруць на сябе асноўны цяжар,—з'яўляецца Беларуская кансерваторыя. За плячыма гэтай навучальнай установы — дваццаць дзевяць выпускаў. Артысты-выканаўцы, кампазітары, музыказнаўцы, дырыжоры і мноства педагогаў, якія цяпер настаўнічаюць амаль ва ўсіх школах і вучылішчах,—плён дзейнасці кансерваторыі. Сярод яе выхавацеляў—вядомыя дзеячы нашай культуры: М. Аладаў А. Багатыроў, М. Бергер, В. Гольдфельд, М. Гальдштэйн, І. Жыновіч, Ю. Ляцэцкі, Л. Мухарынская, М. Маслаў, П. Падкавыраў... Мабыць, пералік тых, хто аддаў і аддае свой талент вучням, быў бы надта вялікім, і мы не абышлі б увагай таксама І. Цвятаеву, М. Шнэйдэрмана, Р. Шаршэўскага, Т. Ніжнікаву, В. Роўду і г. д. Скажам толькі, што кансерваторыя захапляе кожнага. Музыкант, якога запрасілі туды вучыць моладзь, часта прысвячае гэтай высакароднай працы жыццё.

Ну, а выхаванцы? Зноў жа звярнуся да лічбаў. Выхаванцы кансерваторыі складаюць каля 90 працэнтаў Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР, 60 працэнтаў аркестра試 опернага тэатра і значную частку Дзяржаўнага аркестра народных інструментаў. Вакалісты працуюць у оперным тэатры і філармоніі. Сярод кампазітараў ёсць аўтары опер, балетаў, сімфоній і масавых песень. Каля 75 працэнтаў выпускнікоў накіраваны на педагагічную работу ў музычныя вучылішчы, колькасць якіх пасля Вялікай Айчыннай вайны патроілася. Адбываецца і адваротны працэс, так сказаць працэс аддачы: музычныя школы накіроўваюць лепшых сваіх вучняў у музычныя вучылішчы, а тыя—у кансерваторыю. Такім чынам, ад якасці педагагічных кадраў, падрыхтаваных кансерваторыяй, залежыць узровень падрыхтоўкі ў музвучылішчах, а, значыць, і ўзровень будучых студэнтаў кансерваторыі...

Аналізуючы дзейнасць кансерваторыі, пераконваешся, што найбольш паспяхова рыхтуюць тут інструменталістаў для аркестраў і педагагічныя кадры для музычных вучылішчаў. Што датычыць салістаў-інструменталістаў і асабліва вакалістаў, тут яшчэ не ўсё ў парадку. У пасляваенныя гады занадта мала было выхаванцаў кансерваторыі сярод удзельнікаў усесаюзных конкурсаў, не гаворачы ўжо аб міжнародных.

Праўда, конкурсы не з'яўляюцца, вядома, самамэтай, аднак...

У штаце Беларускай філармоніі, радыё і тэлебачання добрых салістаў—вакалістаў, піяністаў, скрыпачоў, віяланчэлістаў, падрыхтаваных кансерваторыяй, сустрэнеш рэдка.

Калектыву кансерваторыі больш, відаць, вядомы прычыны такой з'явы. Нам жа здаецца, што адна з іх наступная. Педагогі не вывучалі вопыт вядучых кансерваторый краіны, рэдка выязджалі для праслухоўвання студэнтаў іншых навучальных устаноў, што зніжае ацэначны крытэрый. Існуюць жа курсы ўдасканалення для педагогаў розных вну, урачоў і іншых спецыялістаў? А ці ж могуць музыканты абыходзіцца без павышэння педагагічнай кваліфікацыі! Калі кансерваторыя з'яўляецца метадычным цэнтрам для педагогаў музычных вучылішчаў, дык педагогі кансерваторыі, у тым ліку і прафесура, павінны ўдасканальвацца перыядычна ў Маскоўскай і Ленінградскай кансерваторыях. Добра было б, каб прафесура гэтых кансерваторый часцей прыязджала ў Мінск і знаёмілася з работай студэнтаў. Мабыць, варта было б падабраць невялікую групу найбольш адораных студэнтаў розных спецыяльнасцей і ўстанавіць асобы кантроль за іх падрыхтоўкай, як гэта робіцца ў многіх кансерваторыях у перыяд падрыхтоўкі да ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў. Перад іх педагогамі трэба паставіць больш складаную задачу—выхаванне салістаў, а не проста выканаўцаў. А саліст — гэта мастак, гэта творчая асоба, якая фарміруецца на працягу не аднаго года, і працэс гэты складаны. Далёка не кожны «выдатнік» можа быць самастойным артыстам.

Звернемся хоць бы да вакалістаў...

У складзе салістаў нашай оперы працуе толькі 13 артыстаў—выпускнікоў Беларускай кансерваторыі. І самае крыўднае тое, што толькі 4—5 з іх займаюць вядучае становішча ў трупе. Ці не выклікае гэта трывогі? У чым жа тут справа? Педагогаў як быццам бы дастаткова. Відаць, многае залежыць ад якасці выкладання. Хочацца прывесці прыклад з гісторыі музычнага вучылішча. Мінскае музычнае вучылішча было створана ў 1924 годзе, а праз 6 гадоў з яго выхаванцаў вырасла оперная студыя, якая падрыхтавалася да адкрыцця опернага тэатра з былых выпускнікоў вучылішча і дала цэлую плеяду спевакоў, што склалі славу нашага тэатра. Гэта адбылося таму, што на той час у Мінску быў добры педагог А. Банчыч, які і падрыхтаваў амаль усю гэту групу першакласных спевакоў. А колькі спевакоў падрыхтавана ў кансерваторыі за пасляваенныя гады? (Падкрэслю: спевакоў, а не «выпускнікоў»).

Для таго, каб быць настаўнікам па вакале, трэба не толькі самому быць спеваком, а і добра разумець прыроду вакальнага мастацтва і абавязкова мець прызванне педагога. Можна назваць нямала выдатных спевакоў, якія, аднак, не браліся за выкладанне, бо не адчувалі такога прызвання і не мелі права браць на сябе адказнасці за лёс будучых спевакоў. Педагог павінен сам мець добрую школу. Толькі тады ён здолее перадаваць свой вопыт моладзі. Ён «праектуе» і фарміруе будучага артыста оперы, а не толькі вучыць яго «азам» спеваў і тэхніцы. Яго абавязак—шліфаваць дыямент, а гэта майстэрства тонкае.

Аб якасці выкладання можна меркаваць толькі па выніках. Зразумела, оперны спявак павінен не толькі свабодна валодаць сваім голасам, мець добрыя сцэнічныя дадзеныя, але і быць у пэўным сэнсе слова музычна адукаваным. Ці ўсе педагогі нашай кансерваторыі клапаціліся аб гэтым? Калі меркаваць па выніках іх дзейнасці, дык, відаць, не ўсе.

Вельмі мала добрых галасоў прымалі яны ў кансерваторыю (а план набору трэба выконваць!) У выніку студэнтамі станавіліся маладыя людзі, якія не мелі добрых вакальных дадзеных. Разважалі, відаць, так: калі не выйдзе спявак, дык будзе педагог. А ці правільны такі падыход?

Відавочна, няправільны. Цяпер гэта разумее і само кіраўніцтва кансерваторыі: зараз тут адкрыты двухгадовыя падрыхтоўчыя курсы, на якіх прафесіянальная прыгоднасць кожнага студэнта будзе выяўлена больш дакладна. Трэба спадзявацца, што новыя педагогі, якім даручаны гэты адбор, не будуць памыляцца, што імкненне рыхтаваць «выхаванцаў» зменіцца ўдумлівай дзейнасцю, скіраванай на добрую музычную падрыхтоўку артыстаў. (Заўважым у дужках—не толькі оперы, а і філармоніі, і музычнай камедыі, тэатр якой неўзабаве пачне работу ў Мінску).

На маю думку, карысна будзе, калі тэатры, зацікаўленыя ў абнаўленні трупы, загадзя пазнаёмяцца з будучымі салістамі. Для гэтага варта мець «інстытут стажораў». Маладыя вакалісты, скажам, на трэцім кансерваторскім курсе могуць прымаць удзел у спектаклях, працаваць з канцэртмайстрамі, дырыжорамі, рэжысурай, адчуваць «локаць» старэйшага таварыша па прафесіі, блізкі прыклад. Альбо — чаму будучыя оперныя спевакі так рэдка ставяць студэнцкія спектаклі? А гэтыя ж спектаклі маглі б быць прадметам абмеркаванняў і нават творчых канферэнцый, на якія, канечне, трэба запрашаць спецыялістаў з тэатраў краіны, з кансерваторый Масквы, Кіева, Ленінграда. Тут узнікалі б і дыскусіі аб метадах выхавання артыста, і аб вучэбных працэсах...

Вакальнае аддзяленне цяпер выглядае калектывам, пра які гавораць, што ён «варыцца ў сваім соку». На «мясцовым фоне» ўсё выглядае быццам і нядрэнна, а на сцэну цікавыя артысты—выхаванцы Мінска — выходзяць надзвычай рэдка. Бывае, што маладыя нават добра «заявіць» аб сабе, а потым хутка губляе форму і проста «трымаецца» ў трупе тэатра.

КАМПАЗІТАРЫ, якіх выхавала наша кансерваторыя, маюць больш прыкметныя поспехі. Імёны іх ведаюць музычная грамадскасць і шырокія колы слухачоў краіны. Песні У. Алоўнікава і Ю. Семянякі, балеты «Мара», «Альпійская балада» і «Выбранніца» Я. Глебава, творы розных жанраў Г. Вагнера, музычная публіцыстыка і лірыка для эстрады І. Лучанка, шуканні Д. Смольскага—усё гэта (каб зноў не займаць увагу пералікам, абмяжоўваюся найбольш яркім, на маю думку) складае актыў кампазітарскага калектыву. Добра, што аўтары музыкі пашыраюць жанравыя гарызонты, звяртаючыся і да песні, і да праграмнага сімфанічнага твора, і да оперы. Лепшае з напісанага беларускімі кампазітарамі гучыць і ў выкананні артыстаў за межамі рэспублікі. Асабліва прыемна адзначыць, што выхаванцы А. Багатырова па-творчы ставяцца да народных вытокаў мастацтва, спалучаючы пошукі сучаснай мовы з даследаваннем і асэнсаваннем фальклорных узораў, маюць выразнае нацыянальнае аблічча.

У Саюзе кампазітараў Беларусі — 42 члены. З іх 17 музыказнаўцаў і 25 кампазітараў. Шчыра кажучы, мяне трохі бянтэжыць такі «адпаведнік»,—атрымліваецца, што на кожнага мастака-творцу прыпадае амаль па крытыку. Чаму так марудна пашыраецца кола кампазітараў-прафесіяналаў з ліку выхаванцаў кансерваторыі? Скажам, у Эстоніі ў Саюзе кампазітараў— 66 чалавек, і большасць з іх аўтары музыкі... Ну, вядома, тут не трэба ганяцца за «колькаснымі паказчыкамі» і пачынаць спаборніцтва з суседнімі рэспублікамі. А падумаць аб такім становішчы, відаць, варта...

Магчыма, многае залежыць ад тэрмінаў «выхаду ў свет» твораў кампазітараў? Бо, напрыклад, некаторыя оперы ляжалі ў партфелі нашага тэатра не адзін дзесятак гадоў, чакаючы сцэнічнага ўвасаблення. А як часта той або іншы з кампазітараў мае магчымасць «паказаць» вам свой твор толькі ў клавіры! Хоць гэта—галіна дзейнасці не кансерваторыі, а тэатраў і філармоніі, усё ж мушу сказаць, што, зноў жа вынік дзейнасці прымушае трывожыцца за працэс выхавання кампазітарскай моладзі. Калі так рэдка гучыць новая сімфонія або камерная музыка, нельга быць спакойнай і кансерваторыі!

Кампазітар сучаснага профілю, які ставіць перад сабой задачу пісаць оперныя творы, павінен, апрача абавязковых музычна-тэарэтычных дысцыплін, якія выкладаюцца ў кансерваторыі — тэорыі, паліфаніі, гармоніі, інструментоўкі і інш.,—вельмі многа працаваць самастойна. Кампазітару трэба быць крыху і драматургам, а для гэтага ён павінен добра ведаць законы драматургіі, часта бываць на спектаклях не толькі ў оперным, а і ў драматычным тэатры, добра ведаць законы сцэны. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на паляпшэнне ведання аркестра і асабліва вакалу. Без глыбокіх ведаў у гэтай галіне брацца за напісанне опернага твора, вядома, немагчыма.

Кафедры кампазіцыі трэба ўзняць узровень падрыхтоўкі кампазітараў. Цяпер на гэтым факультэце займаецца 19 студэнтаў, і ёсць надзея на тое, што праз некалькі гадоў Саюз кампазітараў Беларусі прыме добрае і патрэбнае папаўненне.

ДОБРА, што ў Мінску, галоўным чынам дзякуючы кансерваторыі, сабралася хоць і няшмат, затое кваліфікаваных музыказнаўцаў. Да вайны іх было ўсяго два-тры чалавекі. Музыказнаўцы напісалі сур'ёзныя работы па гісторыі беларускай музыкі, па народнай песні, стварылі рад манаграфій і падручнікаў, яны аператыўна адгукаюцца на многія падзеі музычнага жыцця рэспублікі.

І, тым не менш, хочацца сказаць, што крытыка павінна быць не толькі добра-

АПЕРЫЛІСЯ...

Фота Я. Гедрановіча.

*НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ*

# ПАКАЗВАЕ ГОМЕЛЬ...

Гомельская студыя тэлебачання працуе ўжо дванаццаты год. Тэрмін значны, і працэсы ў гэты час адбываліся складаныя: за дзесяцігоддзе тэлебачанне ў нашай краіне якасна змянілася. Непрызнанае і рамесніцкае спачатку, цяпер яно раўнапраўнае сярод іншых мастацтваў і даволі прафесіянальнае. На студыі тэлебачання прыйшлі людзі, адукаваныя ў сваёй галіне, здольныя, аддадзеныя TV — яны набылі вопыт, сталі майстрамі сваёй справы.

Што можна сказаць аб рабоце Гомельскай студыі?

Я памятаю яе «павільён» у цесным памяшканні пад самым дахам. Потым пабудавалі тыпавую студыю, атрымалі новую тэхніку. Раней заўсёды нечага не хапала. Зараз таксама не ўсё ёсць у дастатку, але, здаецца, гамяльчане лепш за іншыя абласныя студыі рэспублікі аснашчаны апаратурай.

Што звяртае на сябе ўвагу? Стабільнасць кадраў і вытворчы парадак, творчая атмасфера. Няхай вас не палохае гэта слова. Што паробіш — і на TV не абысціся без паперкі, якая плануе і сочыць за выкананнем. На ёй — метры плёнкі, гадзіны рэпетыцый і перадач, выдаткі матэрыялаў, загрузка людзей. Адным словам, прадуманая работа. А гэта ў складанай вытворчасці-мастацтве мае значэнне вялікае.

Аднак TV для масавага гледача — гэта не «кухня», а «фасад», тое, што ёсць на блакітным экране. Гамяльчане паказваюць цікавыя перадачы. Гараджане і жыхары «глыбінкі» не выключаюць апараты, калі чуюць: «Паказвае Гомель...»

Вядома ж, ёсць праблемы. Тыя, аб якіх мы будзем сёння гаварыць, уласцівы ў асноўным мастацкім перадачам. Больш канкрэтна — дзейнасці літаратурна-драматычнай рэдакцыі, якую тут узначальваюць пісьменнік Леанід Гаўрылкін і рэжысёр Аляксандр Лісоўскі. У месяц яны павінны даць гледачам не адну гадзіну праграм. Галоўным чынам гэта складаецца са сталых рубрык і тэматычных перадач.

«Крынічка». Нешта накшталт альманаха. Маладыя літаратары чытаюць свае новыя творы. Дарэчы, адсюль, са студыі, звычайна пачынаецца іх дарога ў прафесіянальную літаратуру.

«Дзяркач» — сатырычны часопіс. Выходзіць рэгулярна, раз у месяц. Часопіс мае вялікую пошту. Гэта натуральна. Людзям ён падабаецца баявой канкрэтнасцю тэматыкі. Часопіс вядуць акцёры. Ён мае сталыя «старонкі» — сатырычны кіна- або фотарэпартаж, абавязкова фельетон, свой тэлетайп, апавяданні сучасных гумарыстаў і сатырыкаў. У кожнай перадачы гледачам паведамляецца, якія меры прыняты па папярэдніх выступленнях «Дзеркача».

Скажам прама, рабіць сатыру не так ужо і лёгка. Многія студыі робяць такія перадачы, але яны выходзяць у эфір нерэгулярна, часам зусім знікаюць з экрана. «Дзяркач» у гэтым сэнсе, як кажуць, прыемнае «выключэнне». Гледачы чакаюць чарговай сустрэчы з «Дзеркачом», бо яна абяцае і дасціпны гумар, і сатырычную атаку на недахопы, і трапны жарт, а галоўнае — паведамленне аб тым, што крытыка дайшла да адрасата і прыняты адпаведныя меры. Канечне, бывае, што перадача слізгане па паверхні з'явы, а жарт будзе далёка не «першага гатунку». Але «Дзяркач» — у пошуку, яго аўтары і выканаўцы патрабавальна асэнсоўваюць свой вопыт і вучацца на прыкладах такіх жа тэлечасопісаў сталічных студый.

Рэдакцыя дае яшчэ адну перадачу — таксама штомесячную. І жыве яна ўжо столькі, колькі, бадай, існуе студыя. Вельмі сціплая яе назва — «На кніжнай паліцы». Аднак гэта — не толькі інфармацыйна-пазнавальная перадача, а маленькі, я сказаў бы, літаратурна-мастацкі тэатр. Вершы і проза на экране як бы «ажываюць» — то ў выглядзе інсцэніроўкі, то канцэртнага «чытання па ролях», то выступлення пісьменніка... Гледачы маюць магчымасць пазнаёміцца з навінкамі беларускай літаратуры, паглыблена «перачытаць» кніжку майстра або «разгарнуць» зборнік маладога аўтара. Актыў перадачы «На кніжнай паліцы» звяртаецца і да хрэстаматыйных твораў, аб якіх ёсць крытычная літаратура, і да навінак, што яшчэ не мелі нават рэцэнзій у перыядычным друку. Рэжысура перадачы раскрывае твор у самых драматычных калізіях, эмацыянальна «запікаўлівае» гледача, каб той самастойна потым звярнуўся да кніжнага выдання. Акцёры-выканаўцы звычайна прытрымліваюцца імправізацыйнай манеры — быццам і яны толькі што «адкрылі» для сябе нешта цікавае і цяпер хочуць паведаміць аб гэтым адкрыцці сябрам. Афармленне павільёна лаканічнае, у кадры пераважна буйныя планы, адпаведны музычны «настрой». І вы бачыце тэленавелу як частку тэатралізаванай праграмы на літаратурныя тэмы.

Прыклад — «Кніжная паліца» майскага выпуску. Паэтычны зборнік «Мары юнацкія» — лепшыя лірычныя вершы маладых беларускіх паэтаў. Чыталіся вершы Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і іншых аўтараў. Расказвалася аб кнізе прозы Эдуарда Ярашэвіча «Прызнанне», аб рамане Міколы Лобана «Гарадок Устронь». На старонцы «Календара» філолаг Н. Няронская расказала аб творчасці Янкі Маўра. Гледачы даведаліся, што надрукавана ў беларускіх часопісах. Тэматыка разнастайная, жанры закрануты розныя, імёны названы і вядомыя, і пакуль што «сціплыя». Гэта толькі ў адным выпуску. Патрэбная і вельмі карысная для прапаганды беларускай літаратуры тэлеперадача.

Цяпер аб самым складаным у гэтай рэдакцыі — аб тэлеспектаклях. Тут ёсць свае ўдачы, знаходкі і выдаткі. І свае складанасці ёсць. Аб іх мы і гаварылі з рэжысёрам А. Лісоўскім. Вось тыя трывогі і клопаты, якія, на яго думку, спадарожнічаюць стварэнню спектакляў на Гомельскім тэлебачанні (адзначым, што яны ж «даюцца ў знакі» і іншым абласным студыям).

Першае — акцёр. Атрымліваецца так. Акцёр іграе на TV, ведаючы, што тэатр — яго асноўнае месца работы. Значыць, ён у першую чаргу падначальваецца планам, графікам свайго тэатра. А тэлерэжысёр склаў свой план работы над спектаклем. А ў тэатры на гэты час акцёра паслалі на выязны спектакль або (як часта бывае!) адмянілі выхадныя, а там яшчэ якія-небудзь «адхіленні». І тады на TV ўсё парушаецца.

У Гомелі з гэтага знайшлі выйсце —тут ёсць відэамагнітафон. Праўда, ён пакуль яшчэ працуе ненадзейна, і плёнкі не хапае, і запіс на відэамагнітафоне прайграе па сваёй тэлеспецыфіцы ў параўнанні з «жывой» перадачай у эфір, і на фільмы-спектаклі нестае асігнаванняў.

І яшчэ аб акцёрах. Студыя запрашае іх з абласнога рускага драматычнага тэатра, а яны не ўсе добра валодаюць беларускай мовай. І гэта не толькі ў Гомелі, а і ў Брэсце, і ў Гродна.

Задумалі аднойчы паставіць «Партызан» К. Крапівы сумеснымі намаганнямі тэлебачання і Мазырскага народнага тэатра — там іграюць на беларускай мове. Добрага спектакля, праўда, не атрымалася, але трэба спадзявацца, што атрымаецца. Цяпер А. Лісоўскі кіруе народным тэатрам Палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна і мае «прыцэл» на нешта большае — зрабіць калектыў мабільным і для TV. Ужо многія гады яго былыя і цяперашнія ўдзельнікі Г. Пікоўскі, М. Цубатаў, Я. Нікіфараў, С. Каліноўская, П. Праведны, Ю. Гера — пастаянныя ўдзельнікі тэлеспектакляў. Эпізадычныя ролі (а былі ўжо і адказныя) ім удаюцца, яны ўжо «адчуваюць камеру», асвоілі манеру і сутнасць дыктарскай работы і многае іншае.

І яшчэ дэталь: уменне тэатральнага акцёра працаваць на тэлебачанні — гэта зусім канкрэтная і складаная рэч. Наўрад ці трэба тлумачыць, што тэатральныя прыёмы акцёрскай ігры непрымальныя на TV. Значыць, гаворка ідзе аб сістэме выхавання ў акцёраў умення знайсці праўду паводзін перад камерай. Такое і артысту-прафесіяналу не заўсёды даецца лёгка, а што гаварыць пра аматараў. Таму і задача — рыхтаваць сваіх выканаўцаў.

Другое пытанне — мастацкае афармленне спектакля, касцюмы, рэквізіт, бутафорыя. «На тэлеэкране — ва ўсіх выпадках — асяроддзе безумоўнае, — пісаў у сваёй кнізе «Тэлебачанне і мы» Ул. Сапак. — Тэлеаб'ектыў надае дакументальны характар таму, што мы бачым».

І таму, апрача праўды паводзін акцёра, неабходна, каб была праўдзівая абстаноўка. (Зразумела, акрамя чыста ўмоўных рашэнняў). Да гэтага часу часцей за ўсё даводзіцца браць на пракат у тэатры і касцюмы і рэквізіт. З такога выпадковага «падбору» і робіцца выяўленчае афармленне тэлеспектакля. Няма патрэбных памяшканняў, няма паперы для фотадэкарацый, не хапае штатаў. Сцэнарысты, рэжысура і выканаўцы цягнуцца да сапраўднага TV, патрабуюць таго ж ад мастакоў, а тыя не маюць адпаведнай базы, неабходнага арсеналу. Спадзяванні — на вынаходлівасць.

Трэцяе, і, бадай, асноўнае — драматургічны матэрыял. Тут старая песня — мала пішуць для тэлебачання. Супрацоўнікі TV скардзяцца на літаратараў, што тыя аддаюць перавагу іншым відам пісьменніцкай працы (бо тут яшчэ і «тэлеспецыфіка»!). У выніку на экран то трапляе нешта вартае ўвагі, то выпадковае, «дацягнутае» ў студыйных умовах...

Давайце разбяромся. Перада мной некаторыя п'есы, якія былі на гомельскім тэлеэкране ў апошнія гады.

«У бітве вялікай» («Гэта было ў Гомелі») — п'еса Аркадзя Маўзона ў апрацоўцы Л. Эльстона. У ёй расказваецца аб драматычных падзеях на Гомельшчыне ў перыяд грамадзянскай вайны. Апрацоўка тэатральнай п'есы няўдалая, не тэлевізійная. Праўдзівей, уяўна тэлевізійная. Былі прадугледжаны і кіназдымкі, але тэкст, які суправаджаў іх («А было гэта так!..») заставаўся на ўзроўні пасрэднай журналістыкі. Яго «падганялі» да чыста тэатральнага жанру, п'есу «перараблялі» ў нешта тэлевізійнае. А. Маўзон — кінадраматург, і ён мог, канечне, на падставе таго ж гістарычнага матэрыялу напісаць для гамяльчан сцэнарый перадачы па законах TV. Чамусьці яго аб гэтым не папрасілі, а далі сурагат замест змястоўнага твора мастацтва тэлебачання.

«Камандзір атрада» К. Губарэвіча ў апрацоўцы Л. Гаўрылкіна — трохі больш удалы прыклад пераапрацоўкі літаратурнага твора ў тэлевізійны. Героі паказаны ў той драматургічнай сітуацыі, якая будзе развівацца на працягу ўсёй п'есы. Кароткая экспазіцыя — і адразу завязка, імклівае развіццё сюжэта, ярка акрэсленыя характары. Тэлевізійна! Толькі зноў жа хочацца спытаць — чаму і на гэты раз твор прафесіянальнага драматурга і кінасцэнарыста павінен быў перарабляць хтосьці, а не аўтар?

Увогуле жанр тэледраматургіі ў рэспубліцы застаецца самым адсталым, відаць, сярод усіх іншых літаратурных жанраў. Інсцэніроўкі, на маю думку, нельга лічыць самастойнымі творамі, нават калі на блакітным экране яны і выглядаюць удалымі спектаклямі («Хлеб» паводле І. Шамякіна ў Гомелі, напрыклад). Таму, падтрымліваючы літаратурна-драматычную рэдакцыю ў яе імкненні даваць у эфір тэлевізійныя «перапрацоўкі» прозы і драмы, хочацца параіць ёй і тут смялей ісці на пошук і выхоўваць кадры сцэнарыстаў, здольных з улікам законаў і спецыфікі TV ствараць арыгінальныя п'есы для блакітнага экрана. Мясцовая тэма? Аўтар нарадзіўся на Гомельшчыне? Добра — не абыходзьце іх сваёй увагай. Але дамагайцеся, каб гэта рабілася не «на падхваце», а прафесіянальна і бездакорна. Бо гледачы параўноўваюць спектаклі Гомеля са спектаклямі Масквы, Кіева, Мінска... На цэнтральных студыях краіны і рэспублікі ўжо даўно не задавальняюцца сцэнарным паўфабрыкатам.

Ёсць скептыкі, якія лічаць, быццам і не абавязкова кожнай абласной студыі «цягацца» з вядучымі: жыві, маўляў, на тыя магчымасці, што табе дадзены. Дык што ж — задавальняцца пасрэдным? Параўнаем, скажам, газеты. Выходзяць у нас «раёнкі», якія чытаеш з вялікім задавальненнем і ўдзячнасцю да сціплага атраду журналістаў, што робіць іх. На ўсю краіну вядомыя і «маленькія» тэатры (хоць бы ў Панявежысе!), дзе творчасць ацэньваюць па вышэйшых крытэрыях мастацтва. А на тэлебачанні хіба не тое ж самае?

У Гомелі працуюць на TV людзі з творчай фантазіяй, патрабавальныя да сябе, якія не мірацца з усім тым, што хоць на кроплю надобна да «правінцыі». Яны здольныя перамагчы і цяжкасці, пра якія пішу ў гэтых нататках. Ва ўсякім разе, злавіўшы ў эфіры кадр з сімвалічнай застаўкай і словамі «Паказвае Гомель...», я не пераключаю свой «Рубін» на другую праграму. Аўдыторыя ў TV абласнога горада вялікая, і дзеля таго, каб задаволіць яе запатрабаванні, варта працаваць натхнёна і ацэньваць зробленае прынцыпова.

Гэта ўмеюць у Гомелі!

Віктар ЗАВІЗІЁН.

**ПІСЬМЕННІК І ЖЫЦЦЁ**

Васіль ВІТКА

# РЭФОРМА ДАГАРЫ НАГАМІ

Апошнім часам шырока распаўсюдзілася форма гандлю — магазін без прадаўца.

Яна вельмі прыдалася, як найбольш зручная, у сталовых, кафетэрыях, хлебных і многіх іншых спецыяльных магазінах, дзе чалавеку можна хутка, на хаду «самаабслужыцца».

Самыя прыемныя вынікі дала яна, гэтая форма самаабслугі, і там, дзе пакупнік не любіць спешкі, — у нашых кнігарнях.

Цяпер многія кнігарні і ў Мінску, і ў нашых абласных і раённых цэнтрах сталі сапраўднымі культурнымі асяродкамі, куды ідзеш, як у родны дом. Тут прадавец — і гасцінны гаспадар, і добры дарадчык, і ваш друг. Адкрытыя кніжныя паліцы — гэта спосаб актыўнай, зацікаўленай самаабслугі, і не дзіва, што ён так прыйшоўся да спадобы ўсім кнігалюбам.

Але ці можна ўдала знойдзеную форму і прыдатную для адных галін гандлю механічна пераносіць на ўсе астатнія?

Нешта падобнае пачалося ў магазінах універсальнай гастраноміі.

Не маючы ніякай магчымасці забяспечыць расфасоўку ўсіх прадуктаў, гандлёвыя «наватары» пачалі ўпарта практыкаваць недарэчную гібрыдызацыю: гандаль без прадаўца і з прадаўцом. І гэта ўжо не эксперымент, а масавая з'ява. Такіх магазінаў шмат. І па ўсім відаць, што «рэформа» набірае сілу і права.

Дзеля чаго гэта робіцца? Дзеля вялікага эканамічнага эфекту? Аказваецца, наадварот — у многіх выпадках не пакрываюцца нават сродкі, што выдаткуюцца на пераабсталяванне памяшканняў, на павелічэнне штатаў...

Так, так — на павелічэнне, а не на скарачэнне, хоць, здавалася б, што самаабслуга якраз мае на мэце найменшую колькасць абслугі.

Гаворачы гэта, я маю на ўвазе самы новы прыклад — гастранамічны магазін у Мінску, на вуліцы Пуліхава.

Можна толькі шчыра паспачуваць яго дырэктару тав. Ляцецкаму, якога штодзень лаюць пакупнікі.

— У чым сэнс вашай перабудовы, Фларыян Людвігавіч? — пытаюся я.

Чалавек разважлівы і далікатны, ён гаворыць тое, што ўжо сфармулявана, як вядомая задача: клопат, увага да пакупніка, а галоўнае — выхаванне культурай абыходжання.

Што казаць, задача ўзвышаная і пачэсная. Але давайце паглядзім, як яна ажыццяўляецца.

Загадзя скажам, ніякай палёгкі для пакупніка не адбылося. У чатырох асноўных аддзелах, дзе прадукты трэба важыць, загортваць у паперу,—гандлююць па-ранейшаму. Расфасаваныя бярэш з паліцы сам. Але асартымент іх не настолькі вялікі, што міжволі ўзнікае пытанне — ці варта было ўсю планіроўку і абсталяванне магазіна падначальваць гэтай, другараднай, мэце? Большыя інтарэсы пакупніка прыстасоўваць да меншых? Адным словам, прышываць не гузік да паліто, а паліто да гузіка.

Адразу ўвайшоўшы ў магазін, вы можаце самаабслужыцца: узяць хлеб, слоік кампоту, бутэльку фруктовага соку, пачак круп або макаронаў, і нават, калі вам болей нічога не трэба, усё адно, каб заплаціць, вы павінны ісці ў другі канец магазіна.

Тут вы можаце таксама абслужыць сябе — узяць масла, малака. Адным словам, любата! Толькі невядома, адкуль пачынаць гэтае самаабслугоўванне. Асноўныя аддзелы—мяса, рыба, каўбаса, сыр, кандытарскія вырабы — якраз пасярэдзіне абодвух канцоў. Тут з паліцы ўжо не возьмеш сам, ды і рукі заняты бутэлькамі, слоікамі, пакетамі, пачкамі, хлебам, батонамі.

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ПАЛЁТ, ШТО ВЫКАНАН З ДУШОЙ...



ТАНЕЦ Ніны Давыдзенка— песня сэрца. У ім артыстка перадае свае трывожныя і акрыленыя думкі, мары аб шчасці, высокую годнасць чалавека, сцвярджае яго права быць свабодным, гордым, любімым. Робіць гэта ў вобразах розных эпох, настойліва і натхнёна. Балерына аддае сваім гераіням прывабную ўсмешку і жыццялюбную гарэзлівасць, тужлівы смутак і трагічныя «інтанацыі сэрца»...

Вядома, што не ўсім артыстам дадзена прыродай і спецыяльнай адукацыяй майстэрства індывідуалізацыі вобраза. Толькі заўзятыя балетаманы могуць упэўнена сказаць, калі тая ці іншая балерына танцуе партыю, а калі дае чарговы канцэртны нумар. На маю думку, для Ніны Давыдзенка галоўнае ў танцы — імкненне «прачытаць» і перадаць унутраны свет гераіні. Мабыць, таму мы і дагэтуль помнім, якімі былі яе Анежка («Святло і цені» Г. Вагнера) або Адэта і Адылія («Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага). Тое няўлоўнае «штосьці», без якога не бывае мастацтва, балерына шукае дапытліва і, знайшоўшы, тактоўна ўносіць у партытуру танца. Яна ўмее падкрэсліць драматызм пачуцця, паглыбіцца ў лірыку і летуценны настрой, раскрыць палымяныя парыванні душы...

Анежка — цікавы сцэнічны вобраз сучасніцы ў нацыянальным балетным рэпертуары. Гэта сталася дзякуючы плённым намаганням кампазітара і балетмайстра-рэжысёра і, можа, галоўным чынам дзякуючы глыбокаму пранікненню Н. Давыдзенкі ў думкі і пачуцці гераіні.

...Ачуняўшы ад сектанцкай атруты, Анежка прасветлена ўзіраецца ў навакольны свет. Здаецца, што разам з ёю радуецца не толькі яе каханы Алесь (саліст Валерый Міронаў), але і ўсе людзі і сама прырода—яркае веснавое сонейка, шчабятлівыя птушкі, аксамітныя зялёныя лугі... Няма ў свеце абыякавых да перажыванняў Анежкі: такі яе настрой, раскрыты балерынай. Яна агорнута гарачай пяшчотай, глыбокім замілаваннем да тых, хто чулай цярплівасцю і мужнай настойлівасцю дапамог ёй, хто раскрыў хараство жыцця, вольнага ад забабонаў. У маўклівым дыялогу мала вонкавай дынамікі, сцэнічнага руху, але багата супярэчлівых — трагічных і рамантычных — эмоцый, унутранага драматызму. Чалавек вяртаецца ў натуральнае праўдзівае жыццё не так і лёгка. Такая, як Анежка, тым больш. Актрыса ў сольных «маналогах» і «дыялогах» з Алесем закранае глыбокую жыццёвую драму дзяўчыны, расказвае ў танцы пра тое, што радуе і турбуе, акрыляе і непакоіць чалавека тонкай душы. Выразна «чытаюцца» журботныя інтанацыі ціхай пакорлівай сектанткі, яе трагічны душэўны канфлікт паміж светлым каханнем і рэлігійным дурманам. На пачатку салістка больш выкарыстоўвае дробныя рухі, сціплую міміку. Глыбока затоенае гора маральна прыгнечанай гераіні адбіваецца на яе стомленым твары, у пакутлівым позірку, у павольных і па-танцавальнаму кволых рухах. Паступова Н. Давыдзенка ўзбагачае партыю эмацыянальна-псіхалагічнымі фарбамі святла, якое жывіць душу Анежкі, і тая пераадольвае свае ваганні. Нічога вонкава эфектнага няма ў гэтых сцэнах: натуральны чалавек, чый вобраз раскрыты ў харэаграфіі.

А што такое «натуральна» ў дачыненні да харэаграфічнага мастацтва? Па-першае, вядома, гэта—па-акцёрску пераканаўчае раскрыццё ўнутранай логікі паводзін героя, перададзенай у віртуозным танцы, які нагадвае імправізацыю. Пластыка цела і гармонія рухаў падначальваюцца пэўнай характарнасці, вельмі ўмоўнай, канечне, бо гэта — балет. І такое майстэрства ёсць у Н. Давыдзенка. Яна арганічна адчувае меру «акцёрскай праўды» і харэаграфічнага праўдападабенства да жыцця, а тут рубеж гранічна тонкі. Каб яго не парушыць, трэба валодаць і выпрацаваным у школе навыкам і, калі хочаце, інтуітыўным дарам. Тады «дзяўчына» ў балеце не будзе «блакітнай істотай» і не стане жанравай фігурай, яна будзе пэўным чалавекам, вобраз якога ўвасоблены сродкамі балета.

Для кожнай танцоўшчыцы балеты П. Чайкоўскага — выпрабаванне на інтэлектуальна-эмацыянальную і творчую сталасць. Гэта — школа выдатнага майстэрства, без якога немагчыма дамагацца мастацкага плёну на балетнай сцэне. Актрысе Н. Давыдзенка давялося танцаваць Аўрору («Спячая прыгажуня») і Машу («Шчаўкунчык»), і яе гераіні былі прывабныя, з душэўным хараством маладога жаночага сэрца. І цэнтральная класічная партыя ў рэпертуары выканаўцы—Адэта і Адылія.

Каб глыбей пранікнуць у душэўныя трывогі, засмучэнні і радасць Адэты, трэба было не толькі засвоіць метрарытмічныя асаблівасці музыкі, але і зразумець, што гэта не абстрактна-фантастычны, а рэальна-псіхалагічны вобраз. Яго музычная тэма блізкая да тэмы пісьма Таццяны («Яўгеній Анегін») і Франчэскі (уверцюра «Франчэска да Рыміні»). У партытуры П. Чайкоўскага ёсць запаветны ключ да харэаграфічнага вырашэння вобраза. Мне здаецца, што Н. Давыдзенка знайшла яго. Артыстка дасягае паэтычнай скульптурнасці вобраза Адэты. Індывідуальнае праявілася ў тым, што танец (адажыо, варыяцыі, кода ў другім і чацвёртым актах) быў насычаны «таццянінскім» роздумам, сардэчнасцю і шчырасцю яе размовы з каханым, глыбінёй пяшчотнага, як першая пралеска, пачуцця. У яе Адэты няма трагедыйнай асуджанасці «Лебедзя» Сен-Санса.

Яны жывуць у спектаклі нечым агульным і змагаюцца адна з адной, як лёд і полымя. Адылія і Адэта. Адэта—не статычная фігура. Не ўсе яе якасці раскрываюцца з першага выхаду на сцэну: гераіня пераадольвае насцярожанасць, набывае валявыя рысы. Гэта гучыць у музыцы і паказана ў харэаграфіі Пеціпа—Іванова—Горскага. Салістка ўважліва слухае музыку, з павагай ставіцца да традыцый выдатных харэографаў. Падкрэслівае яна і «сваё» — крыштальную чысціню захаплення Адэты жыццём.

А хто ж такая Адылія—можа, гэта дэманічны характар, спакушальніца, гатовая запаланіць і зачараваць любога прыгожага хлопца «прынцавай крыві»? Або і яна прывабная і зграбная жанчына-лебедзь? Артыстка дае выразны адказ на гэта. Так, чорны лебедзь—дзяўчына, не пазбаўленая жаночага хараства і шчырых эмоцый, і яна хацела б быць як «анёл нябёсны»... Імкнецца завалодаць сэрцам Прынца і карыстаецца ўсімі «сродкамі чароўнасці», каб прывабіць яго да сябе, захапіць партнёра імпазантнай і тэмпераментнай прыгажосцю.

Некаторыя, нават вядомыя балерыны, акцэнтавалі ў Адыліі душэўную спустошанасць. Яе мэта—прымусіць героя забыць Белакрылага лебедзя, а потым адхіснуцца, пацешыцца і раптоўна знікнуць. Інакш танцуе Н. Давыдзенка. Мы не адчуваем абыякавасці Адыліі да героя, гульні ў каханне замест сапраўднага пачуцця. Артыстка выконвае вялікае па-дэ-дэ з Зігфрыдам у бурным тэмпе, а славутыя 32 фуэтэ—у дынамічным рытме, як гэта падказана музыкай. Але выканаўца акцэнтуе жаночую прывабнасць, гарачыню і шчырыя сімпатыі да юнака. У яе танцы менш светлай рамантыкі і лірыкі, душэўнай непасрэднасці, чым у Адэты, больш адчуваецца імкненне адразу ж авалодаць сэрцам Прынца. Інтрыганства Адыліі не адцяняецца балерынай.

У гэтым праяўляецца пазіцыя Н. Давыдзенка ў трактоўцы вобраза. Гэта можна зразумець так: Адылія не разбуральніца чужога шчасця, яна сама хоча быць шчаслівай, але гатова крочыць да мэты праз любыя перашкоды. У Адыліі няма глыбокага пачуцця, ёсць гарачыя эмоцыі, «прыхільнасць» да гэтага прынца. Роля трактуецца актрысай спрэчна і не вельмі акадэмічна, затое тут ёсць пошук, які не пярэчыць музыцы, не парушае драматызму канфлікту.

У балеце «Выбранніца» на музыку Я. Глебава артыстка стварыла арыгінальны вобраз Натанькі, які не мае «традыцыі». Калі б у гераіні было больш інтэлектуальнай эмацыянальнасці, рэальных пачуццяў (гэта прызнае і сама Н. Давыдзенка), вобраз мог бы набыць трагедыйную сілу, маштабнасць, стаць па-сапраўднаму купалаўскім. На жаль, харэаграфія спектакля не спрыяла глыбейшаму, больш дасканаламу вырашэнню вобраза.

У пракоф'еўскай Золушцы Н. Давыдзенка ёсць псіхалагічная дамінанта — вялікая чалавечая годнасць гераіні, перавага розуму над мяшчанскай абмежаванасцю астатніх дачок Мачыхі, чыстага сумлення — над сквапнасцю, высакародства і чалавечнасці — над мараллю марнатраўства. Магчыма, якраз гэтага і нестае Натальцы з «Выбранніцы»? Добра, што балерына шукае і для гэтай гераіні нешта паглыблена індывідуальнае, прынамсі, для раскрыцця нацыянальных рысаў гераіні.

Калі б я спыняўся на кожнай рабоце балерыны, факты вымусілі б мяне сказаць і тое, што яна, як кожны шукальнік у мастацтве, ведае і горыч няўдач. Але больш важна для мяне было сказаць аб тым, чым прываблівае творчасць на балетнай сцэне гэтага тонкага і дапытлівага мастака. Я параіў бы гледачам пайсці на спектакль з удзелам Ніны Давыдзенка нават тады, калі гэты спектакль вам добра вядомы, скажам, на тое ж «Лебядзінае возера»,— актрыса ў заўсёдным творчым руху, і кожны раз яна адкрывае ў танцы нешта новае, танцуе партыю «нібы ўпершыню». А гэта не можа не выклікаць захаплення.

Міхась МОДЭЛЬ.

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# ПЕСНЯ Ў ВЫРАІ



Высокі, моцны, надзвычай прыгожы жаночы голас мякка і задушэўна спявае:

Было — вакол квітнеў тут дол,
І лес шумеў жывы,
І кожны ліст быў свеж і чыст,
Ад водаў дажджавых.

Мелодыя льецца то шырока і прывольна, то заціхае, потым зноў нарастае, расказваючы аб першым каханні. А ўжо праз колькі хвілін, у наступным рамансе, голас спявачкі набірае сілу, становіцца ўпэўненым, гучыць пераможна:

О ты, пячаць усіх прызнанняў
І мара, бачаная ў сне,
Цвіцеш пралескаю ты ранняй
І свежай, чыстай, быццам ў сне.

Апошні гук растае ў паветры, і з радыёпрыемніка чуецца голас дыктара:

— Вы слухалі вакальны цыкл Льва Абеліёвіча на словы Роберта Бёрнса. Выконвала салістка Беларускага радыё і тэлебачання Ганна Стрыжакова, партыю фартэпіяна — Ларыса Максімава.

І вось я сяджу ў невялікім утульным пакойчыку спявачкі, а гаспадыня ўсё ніяк не можа адолець скаванасць, аднастайна адказвае на пытанні і потым гаворыць:

— Ці варта пра мяне пісаць — я ж яшчэ зусім маладая салістка.

Паступова мы разгаварыліся, і я даведаўся, што пасля школы Ганна паступіла ў Арлоўскае музычнае вучылішча. Там яе настаўніцай была Марыя Мікалаеўна Гараскіна — цудоўны чалавек і педагог.

Усе гады была выдатніцай, а на вучнёўскіх канцэртах, у якіх яна спявала рамансы Рахманінава, Чайкоўскага і шмат чаго іншага, заўсёды народу было больш чым звычайна.

— А якой праграмай вы скончылі вучылішча?

— Гэта былі арыя Марфы з «Царскай нявесты» і Царэўны-лебедзя з «Казкі пра цара Салтана» Рымскага-Корсакава, «Як дух Лауры» Ліста, рамансы Чайкоўскага, Рахманінава, рускія народныя песні.

Закончыўшы вучылішча, Ганна паехала ў Маскву. Пасля першага ж праслухоўвання яе запрасілі ў ансамбль песні і танца Паўднёвай групы войск. Потым былі шэсць гадоў працы ў Венгрыі, выступленні перад воінамі і перад мясцовым насельніцтвам, першыя поспехі. У рэпертуары маладой салісткі паяўляюцца венгерскія народныя песні, яе запрашаюць выступаць з аркестрам венгерскіх народных інструментаў, а потым і з вялікім сімфанічным аркестрам. Часта спявачку можна было ўбачыць і на экранах венгерскага тэлебачання.

Гаспадыня дастае з шуфляды папку з фатаграфіямі і выразкамі з венгерскіх газет, да кожнай з якіх прыкладзены рускі пераклад, клапатліва зроблены яе венгерскімі сябрамі. Вось толькі некалькі назваў артыкулаў і вытрымак з іх: «Руская спявачка — выканаўца венгерскіх народных песень», «Канцэрт сяброўства», «Рускі салавей». І яшчэ: «Цудоўна прагучалі ў сімфанічным канцэрце дзве арыі Чыо-Чыо-Сан і апрацаваная Легарам венгерская народная песня «Далёка за лесам» у выкананні спявачкі Ганны Стрыжаковай. Для кожнага з гэтых твораў наша руская госця знайшла непаўторныя выканаўчыя фарбы. І гэта было высока адзначана публікай, якая ўзнагародзіла выканаўцу бурнымі воплескамі і прымусіла яе «бісіраваць».

Неўзабаве пасля вяртання з Венгрыі Ганна Стрыжакова прыехала ў Мінск і стала салісткай хору Беларускага радыё і тэлебачання. Яна часта выступае перад мікрафонам. Яна — артыстка высокай кваліфікацыі, з каштоўным вопытам прафесіянальнай работы на эстрадзе. Да таго ж у яе вялікі рэпертуар з твораў рускіх і заходніх класікаў, песень савецкіх кампазітараў.

Цяпер яе голас можна пачуць па радыё і ў адкрытых канцэртах, у якіх яна выступае з аркестрам ці секстэтам домраў. Рэпертуар спявачкі няспынна пашыраецца і, перш за ўсё, творамі беларускай музыкі. Так, на яе «творчым рахунку» ёсць лепшыя ўзоры вакальнай музыкі Л. Абеліёвіча, А. Багатырова, Р. Пукста, Ю. Семянякі і іншых кампазітараў, многа беларускіх народных песень...

Назаўтра пасля нашай гутаркі я сядзеў у канцэртнай зале і слухаў выступленне аркестра Беларускага радыё і тэлебачання. І першым нумарам вядучы аб'явіў:

— Юрый Семяняка, «Расцвітай, Беларусь». Выконвае Ганна Стрыжакова...

І калі адгучала апошняя нота песні, зала ўзарвалася апладысментамі.

З. НІКАЛАЕЎ.

Шандар ПЕТЭФІ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПЕСНЯ

Гэй, мадзяр. Пакуль не позна,
За Айчыну хваляй грознай
Ты паўстань супроць нявалі,
Калі хочаш лепшай долі.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

Бачна наша крыўда ў свеце:
Вольных прадзедаў мы дзеці,
А дасюль няма спакою
Нашым продкам пад зямлёю.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

Жыць нікчэмна і ганебна
Досыць, досыць—не патрэбна.
У рашучую хвіліну
Абаронім мы Айчыну.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

Хоць блішчыць ланцуг іржавы,
Ды не так, як шабля славы.
Дык паконччым з ланцугамі,
Шаблі хай блішчаць над намі.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

Не, не знікне венгра слава.
Ён на гэта мае права.
Змыем палкаю крывёю
Пляму ганьбы мы былое.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

Будзе росквіт новай сілы,
Ўнукі прыйдуць на магілы,
Каб у гэты дзень цудоўны
Славіць нашыя імёны.
Богам венграў паклянёмся
Прад людзьмі:
Не! Рабамі больш не будзем
Мы!

## МУЖЧЫНА— БУДЗЬ МУЖЧЫНАМ...

Мужчына, будзь мужчынам!
Жыццёвы вызнай шлях,
Не будзь пакорнай лялькай
У кожнага ў руках.
Хай лёс сабакам злосным
Пільнуе ля акон,
Ад мужных уцякае,
Як баязлівец ён.

Мужчына, будзь мужчынам!
Герой не гаваркі,
Прамовам Дэмасфена
Не перажыць вякі.
Будзь дужы і нязломны,
Не бойся перашкод.
А пераможаш — змоўкні,
Як водгулле грымот.

Мужчына, будзь мужчынам!
Ты будзь заўжды гатоў
У бойцы, калі трэба,
Праліць за праўду кроў.
І лепей сто разоў ты
Адмоўся ад жыцця,—
Калі не страціш гонар,
Не будзе небыцця.

Мужчына, будзь мужчынам!
І ў горы не гадай,—
За ўсе багацці свету
Ты волю не прадай.
Нікчэмны, хто з выгоды
Заплесне і раскіс.
«Хоць з торбай, ды на волі!» —
Вось мужнага дэвіз.

Мужчына, будзь мужчынам!
Адважны ў барацьбе.
Не перашкодзяць людзі,
Не здрадзіць лёс табе.
Ты будзь, як дуб, магутны,
Што спляжыў ураган,
Хоць выверне ў з карэннем,
Ды не сагну ў твой стан.

## ПЕРАЙМАЛЬНІКАМ

Вазком вам уяўляецца паэзія,
Што па гасцінцы тарахціць глухім.
Ды верш—арол. Пад небам ён
лятае —
Вышуквае нязнаныя шляхі.

А вы нікчэмныя, пустыя,
баязліўцы,
Чакаеце, каб вам праклалі шлях.
І, як за косткаю сабакі-хціўцы,
Вы бяжыце ўсё па чужых слядах.

Бяры пяро, пішы, як маеш сілу,
Трымайся шляху ўласнага свайго.
А не—бяры шавецкае начынне
І верш нягеглы растапчы нагой.

## ПАЭЗІЯ

Як зганьбілі цябе, паэзія святая!
Як топчуць тыя дурні кожны раз,
Што пахнуць не зямлёю,
а парфумай!..
Самаупэўненыя невукі-жрацы
Плявузгаюць напышліва з імпэтам,
Што ты—шыкоўны, велічны палац,
Куды дазволена ўваходзіць
далікатна,
Апрануты па модзе і шляхетным.
О, змоўкніце!
Усё хлусня! Хлусня!
Няма ні кроплі праўды ў тых
размовах.
Паэзія—не месца для сустрэч
Стлусцелых самаўпэўненых
абранцаў,
Што ўселіся надзьмутыя пыхліва,
Як быццам у салатніцы цыбуля.
О не! Паэзія—прасторны, светлы
храм,
Куды заходзіць можа кожны,
Каб думаць, адчуваць, маліцца,—
Храм, у які заходзіць можна
І у лапцях, і нават басанож.

Пераклаў з венгерскай М. Хведаровіч.

Іван СКАЛА

## ДЗЕВЯТАЕ МАЯ Ў РАЁННЫМ ГАРАДКУ

Жыве Гісторыя, і ў нашы твары
дзьме
Той самы вецер. Здзьмуў усе
маршчыны
І павуціне з воч відушчых зняў.
Як і раней, пульсуюць успаміны,
У сэрцы не спыняецца агонь,
Такі, як быў, такі, як заўтра будзе.

Мы тут ізноў... І падаюць
дажджынкі
На лозунгі, на плошчу, на галовы...
І па-сваяцку мы ізноў шумім,
Паверхамі ад цыгарэт аблокі
Плывуць над смехам жартаў
грубаватых...

Мы адчуваем масляністы пах
Бутэлек, кінутых пад гусеніцы
танкаў,
І пахнуць дымам згорбленыя
сцены,
І ранішняя шэрань ападае,
І зноў салома шастае ў руінах,
І зноў дыхнула подыхам махоркі,
І, як тады, чаканным крокам нехта
Ступае на чырвоную трыбуну...

Так, мы—Гісторыя! Мы гэта знаем.
Не ўпершыню будуем горад
гэты —
Яго крышылі танкавыя шквалы,
Мы адраджаем горад свой ізноў,
Каб абудзіць у чалавеку
чалавецтва,
У сто разоў будоўлю мы
пашырым,
І зубы сціснем тысячу разоў,
Каб новай песняй сэрца
трапятала.

Мы тут! Мы тут! Няхай цярусіць
дожджык.
Вось узыходзіць нехта на трыбуну:
Май пераможны! Ён дзевяты
дзень
Пульсуе ў скронях... А напал душы
Вось выбухне, здаецца, і тады
Мы вызвалім энергію такую,
Што крок самой гісторыі
паскорыць
Сягоння, заўтра, раніцай адразу,
Як толькі мы пакінем гэту плошчу.

Яшчэ адзін прамоўца—
на трыбуне,
Мы замаўкаем і ўзнімаем рукі,
Усхвалявана прагучала слова —
Што скінуты з плячэй цяжар
былога.
І вось над намі ўжо лістоўкі
кружаць
І нас кранаюць мовою спакойнай.
Мы каўняры тапырым пад
даждждом.
Дождж мая! На ілбах гарачых
Нядоўга жыць яго халодным
кроплям —
Яны без следу знікнуць
вокамгненна...
І ці не час ужо і нам дадому?..
А ціхі дождж вясновы ўсё
цярушыць,
І над трыбунаю шасцяць
лістоўкі —
Жывога дрэва лісце трапяткое.

Вітэзслаў НЕЗВАЛ

## НАДПІСЫ Ў ЗАЛЕ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

I

Дружа мой, пільным будзь
на зямлі, пад якой мы заснулі.
Права гэта сказаць
я праліта́й крывёй заслужыў.
Нарадзіўся мой сын у той дзень,
калі ўпаў я ад кулі.
Я загінуў, каб жыў ён. Каб сын
яго жыў.

II

Чалавек! Няхай войны
пакінуць цябе назаўсёды!
І хачу я, каб кроў мая
кропляй апошняй была.
Расхінаючы рукі,
я ляцеў да цябе, як свабода.
Парашут мой згарэў.
Ды свабода — прыйшла.

III

Калі з ворагам моваю агню
гаварылі салдаты,
Калі свет скаланаўся
ў грымотных абдымках вайны,
Здагадайся, аб чым марыў я
ля лафета гарматы?
Аб усмешцы каханай. Аб кветках
вясны.

IV

Хочаш ведаць, чаму назаўжды мы
вялікімі сталі?
І чаму нас бяда ні зламаць,
ні сагнуць не змагла?
Нас ніколі ніхто
не выкоўваў з жалеза і сталі,
Моц давала нам мэта, якая
наперад вяла.

V

Я, над прорвай будуючы мост,
сустракаў небяспеку.
Як па мосце, па мне
перайшла Перамога сама.
Калі ўпаў чалавек,
каб жыццё захаваць Чалавеку,
Значыць, жыў ён не марна. Памёр
не дарма.

VI

Калі ў дом да цябе
зноў пастукае гора і горыч,
Меч смяротны нацэліць
на Айчыну тваю,
Будзь з народам сваім.
Будзь не ніжай, не вышай.
Будзь поруч.
Радавы—найвышэйшае званне
ў баю!

VII

Не смуткуй, што памёр я.
Памёр я, не знаючы смутку,
За цябе і за маці,
за раніцу заўтрашніх дзён.
Хочаш быць ты, як бацька?
Дык слухай сумлення пабудку!
І сябе, калі трэба, не шкадуй,
як і ён!

VIII

Хто там? Брат мой? Сястра?
Развіталіся моўчкі са мною...
Я не чую—я мёртвы.
Я не бачу цябе.
Але веру табе,
што за праўду паўстанеш сцяною.
Як салдат, устаіш у цяжкой
барацьбе.

І. БАРТ

## ШУМ ЦІШЫНІ

Праз колькі кругоў агню
жыццё пераскочыла!

Колькі паэм анямела
у партытуры маршчын!

Колькі золата
пераплаўлена ў серабро!

Ян КОСТРА

## БРАЦІСЛАЎСКАЯ ВЯСНА

Яе прыход адзначылі раптоўна
У садзе чорных выбухаў слупы.
Фіялак водар дым глушыў
гвалтоўна.
А тыя, што схаваліся ў скляпы,
Пачуўшы мову рускую, на сонца
Выходзілі, як з цемрадзі турмы.
Па вуліцы салдацкі строй
бясконца
Ішоў на захад па пятах зімы.
На квецень дрэў, якой быў
кожны рады,
Панура дыхаў лёд з далечыні.
І пад аркестр грымотнай канапады
Жаўрук выконваў сола ў вышыні.

Катарына БЕЛЬНАЕВА

• • •

Пачую звонкі шэпат,
а гэта—толькі дождж.
Пачую звонкі тупат,
а гэта — толькі дождж.
Пачую знойку крокі,
а гэта — той жа дождж...

Нічога не пачую,
а гэта — ты!

З чэшскай і славацкай пераклаў Пятрусь Макаль.

*ВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ*

М. АКАЛОВІЧ

# ГЭТА БЫЛО Ў СОРАК ПЕРШЫМ...



*Журналіст М. Акаловіч шмат гадоў займаецца пошукам невядомых герояў Вялікай Айчыннай вайны. Нарыс «Гэта было ў 41-м...» раскрывае яшчэ адну гераічную старонку барацьбы савецкага народа супраць гітлераўскіх захопнікаў.*

У ДЗЯРЖЫНСКІМ і Мінскім раёнах і зараз яшчэ можна пачуць расказы аб стойкасці, мужнасці, гераізме нашых воінаў, якія ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня грознага сорак першага ў найцяжэйшых умовах, амаль без боепрыпасаў, каля васьмі дзён вялі ўпартыя баі з гітлераўскімі войскамі ў Мінскім умацаваным раёне, які ішоў уздоўж старой савецка-польскай граніцы.

З дапамогай старшага навуковага супрацоўніка Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Л. Чванава і работнікаў Беларускага тэлебачання было ўстаноўлена, што тут змагаліся 64-я, 100-я і 108-я стралковыя дывізіі. Удалося таксама ўстанавіць, што былы камандзір 108-й дывізіі генерал-маёр Аляксандр Іванавіч Маўрычаў жыве цяпер ва Ульянаўску. Пачалася перапіска.

У адным з пісьмаў генерал Маўрычаў напісаў, што пры адыходзе па яго ўказанні ўсе асноўныя дакументы штаба былі схаваны ў чатырох вялікіх сейфах і закапаны ў адной з зямлянак, якія да гэтага займаў штаб. Гэта было зроблена ў сувязі з прарывам гітлераўскіх танкавых часцей да Мінска і акружэннем дывізіі. У пісьме А. Маўрычаў прыслаў і схему размяшчэння зямлянак у лесе нападалёк ад вёскі Старое Сяло.

Паспрабавалі знайсці закапаныя дакументы. Яны былі вельмі патрэбны, бо ў сейфах былі спісы камандзіраў і байцоў дывізіі. У пошукі ўключыліся воіны Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі (сапёры са шчупамі і мінашукальнікамі). Але знайсці сейфы не ўдалося. А потым згубілі і схему, якую прыслаў генерал.

Але вось у пачатку 1965 года Маўрычаў прыслаў тоўсты сшытак успамінаў. Нашу ўвагу прыцягнуў адзін запіс: «26 чэрвеня ў другой палове дня, — пісаў А. Маўрычаў, — у штаб дывізіі з данясеннем прыбыў капітан Паўленка, які знаходзіўся з групай воінаў у раёне Заслаўе—Радашковічы. Ён паведаміў, што разбіты штаб гітлераўскай часці і захоплены вельмі важныя дакументы, якія раскрывалі планы ворага ў пачатковы перыяд вайны. Сярод дакументаў была тапаграфічная карта з нанесенай на яе абстаноўкай і задачамі танкавай групы да Смаленска».

На пасланы запыт упраўленне кадраў Міністэрства абароны СССР адказала: «...што без указання імёнаў і імёнаў па-бацьку і іншых сацдэмаграфічных дадзеных зрабіць пошук, а таксама ўстанавіць іншыя цікавыя для вас звесткі на ўказаных афіцэраў па ўліку Галоўнага ўпраўлення кадраў немагчыма.

У выпадку неабходнасці іх імёны і імёны па-бацьку трэба ўстанавіць праз архіў Міністэрства абароны па дакументах дывізіі, а потым паўтарыць запыт у наш адрас».

У адказе з архіва паведамлялася, што па 108-й стралковай дывізіі і часцях, якія ўваходзілі ў яе склад, архіў не мае ніякіх дакументаў, якія адносяцца да пачатку вайны. Здавалася, кола пошукаў замкнулася.

Але вось праз некаторы час Л. Чванаву ўдалося ўстанавіць, што былы камандзір 64-й стралковай дывізіі, цяпер генерал-маёр у адстаўцы Сяргей Іванавіч Іоўлеў жыве ў Кіеве. А хутка мы атрымалі ад яго пісьмо і дзве фотакарткі. Сяргей Іванавіч падрабязна адказаў на нашы пытанні. Ён апісаў пазіцыі, якія займалі часці дывізіі перад пачаткам баёў, указаў, якія часці ўваходзілі ў склад дывізіі, хто імі камандаваў. Назваў імёны старшых камандзіраў і ўказаў іх прыкладныя адрасы.

З вялікай цеплынёй генерал Іоўлеў гаварыў пра камандзіра 30-га стралковага палка палкоўніка Аляксандра Іванавіча Яфрэмава і камандзіра 73-га асобнага разведвальнага батальёна маёра Якава Уласавіча Чумакова, людзей цвярозага аналітычнага розуму, вопытных камадзіраў, храбрых воінаў і цудоўных таварышаў.

У адным з пісьмаў ён напісаў, што з дапамогай маёра Я. Чумакова ўдалося захапіць сакрэтныя дакументы гітлераўцаў, якія раскрывалі планы ворага. Ён захапляўся ўмела праведзенай Чумаковым аперацыяй і яе вынікамі.

Мы папрасілі генерала Іоўлева напісаць больш падрабязна аб гэтай аперацыі разведчыкаў. Сяргей Іванавіч падрабязна апісаў вынікі аперацыі, пералічыў дакументы, якія ўдалося захапіць пры разгроме гітлераўскага штаба.

І вось тут нам давялося сур'ёзна задумацца. Ці не аб адной і той жа аперацыі пішуць два генералы.

Задумацца было над чым: што гэта — два розныя выпадкі захопу каштоўных дакументаў ці абодва аўтары ўспамінаў, два баявыя генералы пішуць пра адзін і той жа эпізод? Усё гэта трэба было праверыць.

На пісьмо генералу Маўрычаву доўга не было адказу. Толькі праз многа месяцаў мы атрымалі пісьмо ад яго жонкі, у якім яна паведамляла, што генерал цяжка хворы і вось ужо некалькі месяцаў ляжыць у шпіталі і ўрачы не дазваляюць яму нагадваць пра вайну. Таму генерал і не можа нам адказаць.

Доўга не адказваў і генерал-маёр Іоўлеў. Пошукі затармазіліся, але іх можна было працягваць па другіх напрамках.

У адным з пісьмаў генерал Іоўлеў паведамляў, што былы начальнік штаба 64-й дывізіі, палкоўнік у адстаўцы Васіль Фёдаравіч Белышаў, жыве ў Ленінградзе. Можна было, не ўказваючы падрабязнасцей, апісаных Іоўлевым, папрасіць яго апісаць аперацыю па захопе нямецкіх штабных дакументаў.

Неўзабаве Васіль Фёдаравіч напісаў, што менавіта ён інструктаваў маёра Чумакова перад аперацыяй, даваў яму канкрэтнае заданне, удакладняў з Чумаковым падрабязнасці. Асабіста сам і адпраўляў дакументы ў штаб корпуса. Ён пісаў, што ў гэтай аперацыі ўдзельнічала і рота разведчыкаў 108-й стралковай дывізіі.

Нарэшце расказы генерала Іоўлева, палкоўніка Белышава і генерала Маўрычава атрымалі афіцыйнае пацвярджэнне. Кропкі над «і» былі пастаўлены. Перад намі копія дакумента з архіва Міністэрства абароны СССР.

«Баявое данясенне. Штадзіў 64. КП 3 км на паўднёвы захад ад Заслаўя. 26.06.41 г. 10.25 К. 100000.

1. Прадстаўляю захопленыя ўвечары 26.6.41 г. атрадамі 64-й і 108-й СД дакументы Германскага штаба:

а) карты розныя,

б) розная дакументацыя,

в) фотаапарат.

2. Даношу, што паміж 9.30 і 10.20 збіта знішчальнымі зенустаноўкамі дывізіі 3 германскія самалёты.

3. Захопленых у палон трох германскіх пілотаў на ўчастку 30 СП пасля прыбыцця пераадпраўлю неадкладна да вас.

К-р 64 СД
палкоўнік — С. Іоўлеў.
Нач. штаба 64 СД
палкоўнік — В. Белышаў».

Пасля супастаўлення і ўдакладнення дадзеных аперацыя разведчыкаў дзвюх дывізій прадстала перад намі з поўнай яснасцю.

У ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 года на камандны пункт 64-й стралковай дывізіі, які размяшчаўся ў трох кіламетрах на паўднёвы захад ад Заслаўя, быў тэрмінова выкліканы камандзір 73-га асобнага разведвальнага батальёна маёр Чумакоў. Яму было дадзена заданне правесці сур'ёзны разведвальны рэйд-пошук у напрамку Радашковічы — Краснае — Маладзечна. Батальён па загадзе штаба корпуса ўзмацняўся ротай разведчыкаў 108-й стралковай дывізіі.

Зборы былі нядоўгія. На досвітку атрад пакінуў лагер. Маёр Чумакоў павёў свой атрад прасёлкамі, высылаючы далёка наперад дазорных.

У раёне Радашковіч дазорныя падалі сігнал: «Бачу праціўніка!» Чумакоў на бронемашыне наблізіўся да дазора. На вялікім поплаве каля лесу стаяла больш як 30 танкаў ворага, дзесяткі танкетак, аўтамашын, матацыклаў. Між імі снавалі аўтацыстэрны.

«Языка тут не захопіш, — падумаў Чумакоў, — і ў бой няма сэнсу ўвязвацца, але штаб дывізіі аб гэтым атрадзе гітлераўцаў трэба папярэдзіць». Чумакоў хутка склаў данясенне і тут жа адправіў у штаб дывізіі. Двух разведчыкаў пакінуў назіраць за праціўнікам, а сам з атрадам рушыў далей на захад.

Прасоўваліся наперад асцярожна, старанна прагладаючы мясцовасць. Недалёка ад вёскі Шалухі на адным з узгоркаў ваентэхнік другога рангу Анісімаў спыніў матацыкл і, падаўшы сігнал спыніцца, пачаў уважліва разглядаць мясцовасць у бінокль.

— Што здарылася, ваентэхнік? — запытаўся Чумакоў, падыходзячы да дазорнага.

— Наперадзе гітлераўцы, — адказаў Анісімаў. Паглядзіце направа ад ляска.

Чумакоў паднёс да вачэй бінокль і ўбачыў, як калона легкавых аўтамашын і аўтобусаў збочвала з шашы ў лясок. Ззаду калоны рухалася некалькі машын з аўтаматчыкамі. Па шашы ўзад-уперад рухалася некалькі лёгкіх танкаў і танкетак.

Камбат разам з групай байцоў рашыў абследаваць падыходы да лесу з поўдня і захаду. У драбналессі Чумакоў загадаў атраду замаскіравацца, а сам, разам з Анісімавым і некалькімі разведчыкамі, адправіўся высвятляць абстаноўку.

Прабіраліся наперад з вялікай асцярожнасцю, хаваючыся за ствалалі разгалістых елак, за кустамі. Разведчыкі выразна чулі тарахценне матацыклаў, а потым да іх слыху даляцелі гукі гармоніка, гаворка гітлераўцаў, смех. Чумакоў падняў руку — «Асцярожна! Побач вораг». Пачалі прасоўвацца паўзком, па-пластунску. А вось і лагер фашыстаў.

На невялікай, выцягнутай з поўначы на поўдзень паляне, пад густым шатром дрэў стаялі аўтобусы, легкавыя аўтамашыны, матацыклы. Ля аўтобусаў раскладныя крэслы, сталы, каля якіх мітусіліся салдаты. Адны афіцэры, раздзеўшыся да трусоў, мыліся, другія — адпачывалі. Гітлераўцы адчувалі сябе ў бяспецы.

Чумакоў загадаў двум байцам абысці паляну, даведацца, ці ёсць ахова стаянкі, падлічыць узбраенне гітлераўцаў. А калі гэтыя дадзеныя былі атрыманы, ён пакінуў двух разведчыкаў назіраць за праціўнікам, астатніх павёў да атрада. Па дарозе ў яго выспеў дзёрзкі план аперацыі.

Сабраўшы атрад, Чумакоў растлумачыў абстаноўку.

У лясочку спыніўся штаб нейкай воінскай часці. Гітлераўцы адчуваюць сябе спакойна. Яны нават аховы з боку лесу не выставілі. Толькі па шашы курсіруюць тры лёгкія танкі. Безумоўна, фашысты не падазраюць аб нашай прысутнасці. Тут мы напэўна дастанем патрэбныя нам дадзеныя аб праціўніку. Бо на нашым баку раптоўнасць.

Выслухаўшы думку камісара і камандзіраў рот, Чумакоў аддаў загад:

— Танкі праціўніка трэба знішчыць звязкамі гранат. Байцы нашы ўмеюць гэта рабіць. Пойдуць добраахвотнікі. Узначаліць групу знішчальнікаў танкаў камісар Ганцоў. Капітан Паўленка са сваёй ротай прыкрывае подступы да ляска з поўдня і захаду. Асноўную групу захопу павяду я. Сігналам для пачатку аперацыі будуць выбухі гранат знішчальнікаў танкаў.

Група Чумакова ішла з усімі перасцярогамі, бязгучна — як яшчэ ў мірны час вучыў разведчыкаў камбат. А вось і байцы, якія назіралі за гітлераўцамі. Чумакоў падпоўз да аднаго:

— Ну што?

— Трымаюцца спакойна, — адказаў разведчык

Чумакоў рассунуў галінкі арэшніка і стаў назіраць за гітлераўцамі. У лагеры было спакойна. Байцы, заняўшы выгадныя пазіцыі, чакалі сігналу.

«Час бы ўжо і пачынаць, — падумаў Чумакоў, глянуўшы на гадзіннік. — Чаму гэта знішчальнікі затрымліваюцца?».

У гэты час на паляну выскачыў матацыкліст. Спыніўшы ля аднаго з аўтобусаў матацыкл, ён накіраваўся да групы афіцэраў, якія размясціліся пад разгалістым старым дубам. Падбегшы да афіцэраў, ён падаў аднаму з іх аб'ёмісты пакет.

— Эх, чорт! Можа сарвацца ўся аперацыя, — нервова сціскаючы ў руцэ пісталет, прашаптаў Чумакоў. — Ну што яны там цягнуць!? Давядзецца пачынаць самім, не дачакаўшыся сігналу знішчальнікаў. Нельга ж упускаць такі зручны момант.

І тут да слыху разведчыкаў дакаціўся выбух на шашы, за ім другі, трэці.

— Па фашысцкіх захопніках агонь! — гучна скамандаваў Чумакоў і стрэліў з пісталета ў бліжэйшага да яго нямецкага афіцэра.

Лес адразу напоўніўся трэскам аўтаматаў, кароткімі чэргамі кулямётаў, гучнымі залпамі трохлінеек. Фашысты замітусіліся на паляне.

Праз паўгадзіны ўсё было скончана. Разведчыкі забралі з аўтобусаў і легкавушак найбольш каштоўнае, а галоўнае — дакументы. Імі набілі некалькі мяшкоў. Abліўшы бензінам усе машыны і аўтобусы, падпалілі іх, а самі, захапіўшы мяшкі з дакументамі, трафейную зброю, трох афіцэраў і пяцёх салдат, пайшлі на месца збору. Хутка яны былі ўжо ў штабе дывізіі, і маёр Чумакоў дакладваў камдыву аб выкананні адказнага задання.

Калі разабралі дакументы і дапыталі палонных, выявілася, што разведчыкі разграмілі перадавую часць штаба 39-га танкавага корпуса гітлераўцаў.

Сярод захопленых дакументаў асаблівую ўвагу прыцягнула схема з падрабязнай інструкцыяй да яе. На схеме былі азначаны напрамак удараў войск групы армій «Цэнтр» і ўмоўныя значкі, а таксама лічбы. Што азначаюць гэтыя значкі і лічбы, на схеме не тлумачылася. І толькі пасля ўважлівага азнаямлення з інструкцыяй стала вядома, што значкі на схеме азначаюць нумары воінскіх часцей і злучэнняў, якія прымаюць удзел у нанясенні ўдараў. Лічбы ж азначалі тэрміны дасягнення і захопу гітлераўскімі войскамі буйных прамысловых і адміністрацыйных цэнтраў нашай краіны. Напрыклад, датай захопу Мінска было 27 чэрвеня, Віцебска — 6 ліпеня, Магілёва — 10 ліпеня і г. д.

Камандаванне дывізіі даведалася, што гітлераўцы рвуцца да Мінска двума буйнымі танкавымі групамі: ад Вільнюса праз Маладзечна і Радашковічы — групай генерала Гота, а ад Брэста праз Слонім, Баранавічы, Дзяржынск — групай генерала Гудэрыяна. Стрэлы гэтых дзвюх груп скрыжоўваліся ля Мінска, а потым накіроўваліся: адна да Барысава, Оршы, Смаленска; другая — праз Бабруйск да Магілёва і Смаленска; трэцяя — ад Брэста праз Пінск і Мазыр на Гомель; чацвёртая — праз Вільнюс, Лепель і Віцебск да Смаленска.

Са схемы было відаць, што гітлераўцы намераны дзейнічаць сваім улюбёным прыёмам — танкавымі абцугамі. Такія абцугі замыкаліся ля Мінска, Магілёва, Смаленска, Гомеля, Масквы.

Улічваючы ўсю важнасць здабытых у ворага дакументаў, камандаванне дывізіі тут жа пад узмоцненай аховай накіравала іх у штаб корпуса, а адтуль — у штаб Заходняга фронту. Там яны трапілі ў рукі маршала Савецкага Саюза Б. Шапашнікава, які асабіста завёз іх у Генеральны штаб.

Так смелая аперацыя храбрых разведчыкаў маёра Чумакова дапамагла нашаму камандаванню даведацца пра планы гітлераўцаў.

Генерал-маёр Іоўлеў пісаў у сваіх пісьмах: «Разгром штаба 39-га нямецкага танкавага корпуса — заслуга маёра Я. Чумакова — смелага, ініцыятыўнага афіцэра-разведчыка... Аб мужнасці, смеласці, ініцыятыўнасці маёра Чумакова і яго разведчыкаў у дывізіі расказвалі легенды. Шкада, што мне невядомы яго далейшы лёс...»

Ад жонкі маёра Чумакова — Лідзіі Цімафееўны стала вядома, што Якаў Уласавіч загінуў 1 жніўня 1944 года пры вызваленні Літвы. Яна паведамляла, што Чумакоў нібы быў удзельнікам Мінскага партыйнага падполля, а потым партызанам. Следапыты займаюцца зараз устанаўленнем яго баявога шляху. Думаецца, што чытачы, якія ведалі Якава Уласавіча Чумакова, дапамогуць следапытам апісаць баявыя справы гэтага мужнага і смелага камандзіра, аддана байца ленінскай гвардыі, камуніста, патрыёта сваёй Радзімы.

# ВЫКАЗАНА Ў МАНЕРЫ ЭСЭ...

НА ГЭТЫ РАЗ, здаецца, часопіс абагнаў газеты ў аператыўным рэцэнзіраванні кніжкі: раней за ўсіх водгук на зборнік артыкулаў пра сучасны тэатр «Ты і я» Т. Арловай даў «Неман» (№ 3 за г. г.). Аўтар водгуку І. Маставой (дарэчы, ён чамусьці свае каментарыі да тэксту Т. Арловай у дужках падпісаў ініцыяламі «Г. К.»!), відаць, занатоўваў самыя першыя ўражанні і спяшаўся. Бо пачынае з прызнання, што можна назваць у кнізе «многа спрэчных і памылковых меркаванняў. Многа няўвязак і лагічных пралікаў» і тут жа абвяшчае права Т. Арловай... «абараняць тэатр». Абарона, у якой сустракаюцца «многа» памылак і лагічных пралікаў, — не такая і надзейная. Але важней спытаць І. Маставога, ад каго трэба абараняць сёння тэатр? Адказ ён дае дэманстратыўна расплывісты і амаль дэмагагічны (тут змешаны «руціна» і «кан'юнктура», «ворагі, часам зласлівыя, але часцей ліслівыя, апранутыя ў тогу прыхільнікаў мастацтва» — і ўсе яны «штодзённа пасягаюць на сапраўдную яго сутнасць»!), не называючы канкрэтных носьбітаў усяго варожага тэатру, ад каго ці ад чаго яго трэба абараняць. Ад рэжысёраў і артыстаў з ліку аматараў «руціны» і «кан'юнктуры»? Ад драматургаў, якія пішуць недабраякасныя п'есы? А можа ад крытыкаў, што «апранаюць тогу прыхільнікаў»?

Аднак самае прыкрае ў тым, што сказанае ў «Немане» не пацвярджаецца зборнікам артыкулаў «Ты і я». Разгорнем кніжку. Гэта цыкл звычайных тэатральных рэцэнзій на спектаклі, створаныя ў 50—60 гады на беларускай сцэне пераважна на маладзёжную тэматыку. Аўтар даволі ўмела звязала гэтыя рэцэнзіі лірычным роздумам і літаратуразнаўчымі каментарыямі, у якіх прасочваецца лейттэма яе даследавання: малады герой у жыцці і яго вобраз на сцэнічных падмостках. Сустракаюцца тут і вельмі трапныя назіранні, і змястоўны разгляд акцёрскіх работ...

Аднак ёсць у Т. Арловай і зусім суб'ектыўныя ацэнкі. Скажам, яна перабольшвае значэнне тэлеспектакля «Два колеры» і аддае яму шмат увагі (хоць «абараняе» яна тэатр, а не TV), параўноўваючы яго з аднайменным спектаклем тэатра юнага гледача. Чытаеш і думаеш: а якую ж думку хоча сцвердзіць аўтар? Што «спробы стварыць маленькія «Современники» рабіліся ў кожным тэатральным горадзе»? Дык гэта няпраўда. Часцей пераймаліся толькі рэпертуарныя навінкі маладога маскоўскага тэатра і ігнараваліся студыйныя метады фарміравання тэатра. З гэтага, як піша і сама Т. Арлова, «нічога не атрымалася», бо рэпертуар звычайна складаецца з арганічнай патрэбы тэатра ставіць **гэта** і **пра гэта,** зыходзячы з творчых імкненняў і акцёрскага патэнцыялу. А можа тое, што «героі п'есы «Два колеры» не былі адзінокімі... у драматургіі тых гадоў, у іх былі дзесяткі пабрацімаў»? Не, Т. Арлова піша аб нечым іншым: яна да «Двух колераў» прышпільвае раней напісаную і пастаўленую п'есу І. Мележа «Пакуль вы маладыя». Навошта і чаму? Толькі таму, што там і тут героі — равеснікі. Далей узнікае гаворка пра «Любоў, Надзею, Веру» П. Васілеўскага, дзе нават і ўзрост большасці герояў не той, не кажучы ўжо пра тое, што зусім іншыя старонкі жыцця. Здаецца, што, парушаючы храналогію, змешваючы жанры п'ес, сутыкаючы тэатр і TV, аўтар хацела сказаць толькі даволі банальную ісціну пра тое, што названыя п'есы сышлі са сцэны і «вяртанне іх наўрад ці магчыма»?..

Такое ў кніжцы «Ты і я» здараецца часта. Чытаеш рэцэнзію на спектакль і рыхтуешся да пэўных высноў, звязаных з яго жыццёвай крыніцай і мастацкім узроўнем, а табе прапануюцца зусім нечаканыя, адвольна абраныя аўтарам параўнанні-аналогіі ці штучна прыцягнутыя, зусім непадрыхтаваныя аналізам таго ці іншага спектакля новыя тэмы.

Так, зацікавілася, напрыклад, Т. Арлова (і чытача зацікавіла!), чаму рамесніцкая камедыя «Захавай маю тайну» ў тэатры імя Коласа збірала больш гледачоў, чым драма «Вайна пад стрэхамі» і «Шостае ліпеня». Аднак, прааналізаваўшы толькі «Тайну», яна тут жа пераскоквае да другога пытання: «Перш чым спрачацца з тымі, хто не лічыць тэатральнае мастацтва трыбунай, з якой можна гаварыць горача, надзённа і шчыра, захацелася яшчэ раз пераканацца ў сваім праве абараняць тэатр». Па-першае, які гэта дзівак-рэтраград «не лічыць трыбунай» тэатр? А па-другое, чаму разгляд прыёмаў, якімі драматург карыстаўся, каб прыцягнуць увагу гледача да «Тайны...», абудзіў у аўтара жаданне «пераканацца ў сваім праве абараняць тэатр»?

Так «свабодна» пераходзіць ад тэмы да тэмы аўтар занадта часта. І чытаеш гэтыя пераходныя мясціны, крытычныя «кладкі» паміж звычайнымі рэцэнзіямі, як устаўныя кавалкі эсэістыкі. Думка крытыка не засяроджваецца на той ці іншай тэме, яе мы павінны зноў і зноў адшукваць, як абрыўкі нітак, і звязваць у адно самі. Стракацяць імёны драматургаў, акцёраў, рэжысёраў — стваральнікаў спектакляў, дзе ёсць вобразы маладых людзей нашага часу, а таго, чаго чакаеш ад прадмета даследавання, няма: Т. Арлова амаль зусім не гаворыць аб рэальным жыцці, не сутыкае і не параўноўвае мастацкі вобраз з яго прататыпам, не правярае адлюстраваныя на сцэне характары і праблемы з іх вытокамі ў рэчаіснасці. Так, спектакль «Мой бедны Марат» у купалаўцаў параўноўваецца з кінафільмам «Дзень шчасця», з творам, які будуецца, вядома, па сваіх законах і не можа быць ні пацвярджэннем праўды мастацтва ў тэатры, ні абвяржэннем яе.

Канечне, уводзячы ў размову аб сцэне прыклады з кіно, жывапісу, музыкі, аўтар звычайна не гоніцца за славай вонкавай «эрудыраванасці», а пашырае гарызонт даследавання. Але ж выключаць з даследавання жыццё, якое дае мастацтву тэмы і вобразы, азначае збядняць глыбіню крытычнага аналізу, зводзіць яго да «цэхавай» гаворкі, у якой можа прыняць удзел толькі дасведчаны ў гэтай галіне чытач, — закранаецца ж толькі «рэха» (мастацкае) рэальнасці, а не сама яна. Гэта, дарэчы, робіць эмпірычнымі выказванні Т. Арловай адносна твораў пра вайну: яна бярэ п'есу А. Дзялендзіка і спектакль тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі «Грэшнае каханне» па-за тымі абставінамі, з якіх пачэрпнуты канфлікт драмы, і таму часам схіляецца да зусім нечаканых высноў. Скажам, у зададзенасці аднаго вобраза вінаваціць не аўтара і не рэжысёра, якія парушылі праўду і логіку жыцця, а... выканаўцу ролі.

Ім, артыстам, Т. Арлова наогул прыпісвае значэнне «вышэйшай інстанцыі» ў стварэнні сцэнічнага партрэта. І атрымліваецца, што адзін з іх, напрыклад, «вучыць нас навуцы нянавісці», другая «ў аналізе невытлумачальных паваротаў чалавечай псіхікі... адкрыла новае», герой трэцяга «як чалавек яшчэ не склаўся» і г. д. А высновы робяцца катэгарычныя. Дзе выканаўца выступае тонкім інтэрпрэтатарам ролі, дакладна выпісанай у п'есе, дзе ён дзейнічае насуперак драматургу, а дзе трапляе ў палон рэжысёрскага «бачання», у кнізе «Ты і я» часам і не адрозніш. А Т. Арлова добра ведае, што акцёр, выходзячы на сцэну, мае ў сваім распараджэнні тэкст, рэжысёрскую задачу, самога сябе і партнёра. Пра гэта можна было б не гаварыць, калі б у кнігах аб драматургіі мы не прыпісвалі гегемонію слову аўтара, а ў кнігах пра тэатр — выканаўцу ролі...

Відаць, калі Т. Арлова друкавала свае рэцэнзіі ў перыядычным друку, пэўныя акцёры і спектаклі давалі ёй спажыву для пэўных заўваг, паасобку, можа, і справядлівых у кожным канкрэтным выпадку. Але сабраныя пад агульнай вокладкай, артыкулы «не гучалі». Каб надаць ім нешта падобнае на адзінства, Т. Арлова празмерна часта карыстаецца «прыёмам эсэ» і звязвае тое, што не мае лагічнай паслядоўнасці, эмацыянальнымі воклічамі.

Прачытаўшы кніжку, усё ж бачыш, што яна будзе карыснай, бо Т. Арлова зафіксіравала некаторыя з'явы беларускага сучаснага сцэнічнага мастацтва, даўшы крытычнае апісанне раду спектакляў і акцёрскіх работ. І крыўдуеш, што аўтар штучна аб'ядноўвала свае артыкулы розных гадоў у нейкае падабенства «канцэпцыі».

Хочацца верыць, што ў наступных работах крытык будзе па-гаспадарску абыходзіцца з думкай і здолее абараніць, канечне, не тэатр, а галоўныя прынцыпы ў савецкім мастацтве ад прафанацыі і прымітыву. Лепшыя старонкі кнігі (пра п'есы І. Шамякіна і А. Дзялендзіка, напрыклад) умацоўваюць такое ўражанне. А без пралікаў, здаецца, першых кніг не бывае. Прынамсі, у тэатральнай крытыцы.

**В. ІВІН.**

Т. Арлова. «Ты і я». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1969.

# ТАЦЯНЧЫН КЛОПАТ

Кожны новы дзень у жыцці малога — новая падзея, новае адкрыццё невядомага. Старэйшыя ўважліва адносяцца да ўсяго, што адбываецца ў жыцці маленькіх, дапамагаюць ім разабрацца ў з'явах навакольнага свету. У гэтым сэнсе кніжка Уладзіміра Юрэвіча «Дзе начуе сонца», — добры дапаможнік для тых, хто або яшчэ не ходзіць у школу, або толькі пачынае вучыцца.

Яна складзена з дванаццаці апавяданняў, аб'яднаных адной задумай: абудзіць у душы дзяцей цікаўнасць, а нам, дарослым, паказаць, як фармуецца дзіцячая псіхалогія.

Крок за крокам, ад адной падзеі да другой ідзем мы разам з героямі кніжкі і пачынаем задумвацца над многімі жыццёвымі пытаннямі. А задае гэтыя пытанні цікаўная і непаседлівая Тацянка. Канечне, задумваемся мы над імі не таму, што яны вельмі складаныя, наадварот, пытанні звычайныя і нават простыя. Але менавіта ў гэтым іх істотная сутнасць. Мы неяк прывыкаем не заўважаць паэзію першароднасці, чысціні першых сутыкненняў з рэчамі, прыродай. Ціхай да ўспамінкага болю, радасцю аб **сваім** дзяцінстве поўніцца наша душа, калі чытаем апавяданне «Мячык-скачык». Сітуацыя простая: дзед купіў падарунак сваёй унучцы — гумовы мячык, які надзімаюць паветрам. Толькі ў дзеда і ў бабкі духу не хапае, каб зрабіць гэта. Надзімае мячык міліцыянер. І Тацянка шчаслівая. Вядома, тут гаворка ідзе не пра тое, што вось, маўляў, і такі выпадак бывае ў жыцці. Размова ідзе пра чалавечыя адносіны, пра тое, што ўражвае дзіцячую душу, пакідае ў ёй след. Дзіця датыкнулася да чалавечай дабраты, спагадлівасці —найпярвейшых прыкмет гуманных адносін у грамадстве. І мы самі, пражыўшы пэўны час разам з дзедам і яго ўнучкай, іменна цяпер зразумелі нешта вельмі харошае, важнае, што яшчэ доўга будзем прыгадваць і пры выпадку аб гэтым будзем успамінаць.

Якое б апавяданне мы ні ўзялі — «Шумны лістапад», «Апельсін», «Неспадзяваная госця», «Дзе начуе сонца» —гэта як бы паасобныя часткі з багатага на адкрыцці жыцця малога, хвалюючыя сустрэчы з прыгажосцю.

Аўтар умее гаварыць з маленькімі, знаходзіць патрэбнае слова-зерне, якое лёгка кладзецца на поле разумовай дзейнасці малога і дае добрыя ўсходы. Ды ўрэшце — не толькі малога. Вось, напрыклад, апавяданне «Апельсін». Захварэў дзед — заўсёдны і цікавы спадарожнік у Тацянчыным жыцці. У дзіцячым садзіку Тацянцы на абед далі, як і ўсім яе сяброўкам, апельсін. І яна гэты самы апельсін хавае ў рукавічку, каб потым аддаць яго дзеду. Бо яна цвёрда пераканана: калі дзед яго з'есць, адразу паправіцца.

Не абмяжоўваецца пісьменнік толькі гаворкай пра прыгожае і добрае, што можа напаткаць дзіця. Шчыра і адкрыта ён падае карціну таго, як жорсткасць (хай можа сабе і выпадковая) чалавека балюча раніць чыстую душу дзіцяці, уносіць у светлае дзіцячае ўяўленне аб жыцці не вельмі вясёлыя адценні. (Апавяданне «Анюціны вочкі і Тацянчыны слёзкі»). Разам з тым негатыўнае ў пэўнай меры спрыяе таму, што характар малога гартуецца, выпрацоўвае цвёрдасць, выхоўвае здольнасць узважваць дабро і зло, кладзе пачатак крытычнаму падыходу да супярэчнасцей, якія даводзіцца вырашаць. Прыкметна, што Ул. Юрэвіч дасягае гэтага выключна простымі сродкамі. Апавяданне вядзецца без зрываў: спакойна і ўраўнаважана.

Дабрата, шчырая зацікаўленасць у справах дарослых вызначае паводзіны і ўчынкі маленькіх герояў з кніжкі Ул. Юрэвіча «Дзе начуе сонца». Следам за Тацянкай пісьменнік знаёміць нас са Святланкай — цікаўнай і дапытлівай дзяўчынкай, з Аленкай — яе малодшай сяброўкай, з якою ўпершыню пасля лета ідуць у школу. Аленка — наогул у першы клас. І ўпершыню робіць адкрыццё, што настаўніца такая ж добрая, як і яе, Аленкі, маці. Знаёмімся мы і з двума героямі, па-мужчынску стрыманымі на пачуцці, але поўнымі прагі да здзяйснення сваіх дзіцячых мар — Віталькам і Андрэйкам.

Думаецца, што маленькім чытачам спадабаецца кніжка Уладзіміра Юрэвіча. Бо акрамя цікавых саміх па сабе герояў і сітуацый, у якія яны трапляюць, яна напісана жывой і сакавітай мовай, а малюнкі, выкананыя мяккай акварэллю мастаком П. Калініным, надаюць ёй прывабны і цікавы выгляд.

**В. ПОЛЯК.**

Уладзімір Юрэвіч. «Дзе начуе сонца». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# З ДУМКАЙ ПРА ДАБРАТУ

УМОЎНА кнігу Аляксандры Ус «Ці даруе?..» можна падзяліць на тры раздзелы. У плане вырашэння маральна-этычных праблем напісана апавяданне «Любоў мая, мара мая!» У ім апавядаецца пра тое, як юнак, рабочы інструментальнага цэха, у вячэрняй школе сустрэў аднойчы дзяўчыну. Ён пакахаў яе шчыра, як толькі магло пакахаць юнае сэрца. Ніяк не адважыўся прызнацца ёй у каханні, нават падыйсці да яе. І мусіў адкрыцца таварышу па працы Хведару, што разам з ім вучыўся ў вячэрняй школе. Той пасмяяўся з яго і пачаў заляцацца да Алёнкі, вадзіць яе на танцы. Аднойчы Хведар стаў плесці «нешта непрыстойнае» пра дзяўчыну. І закаханы юнак уляпіў яму аплявуху, за што атрымаў добры наганяй ад сяброў, ды яшчэ ў заводскай шматтыражцы прапясочылі. У вячэрняй школе яго таксама ўсе дакаралі за непрыстойны ўчынак, дакарала і Алёнка. Юнак развітваецца з заводам і вячэрняй школай і едзе на цаліну. Там пакутуе па Алёнцы. Нарэшце напісаў пісьмо вучням свайго класа. Адказ прыслала Алёнка. Яна пісала: «Ці памятаеш ты Хведара — таго высокага светлавалосага хлопца з нашага класа? Ён перавёўся ў другую школу. Я больш не дружу з ім... І чаму ты не расказаў, за што пабіў яго?»

Назаўтра раніцой юнак ехаў на аэрадром, насустрач сваёй мары.

Апавяданне выхоўвае ў моладзі правільныя маральна-этычныя адносіны да кахання, выступае супраць абывацельшчыны і хціўвасці, і ў гэтым яго ідэйная і мастацкая вартасць. Такім жа клопатам аб чысціні юначых сэрцаў, вернасці высокім пачуццям пазначаны і апавяданні «Салаўіная песня», «Ці даруе?..», «Пуховая хустка» і інш.

Пэўнае месца займаюць у зборніку творы аб гераізме савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца апавяданне «Дзякуй, што ты жыла!» Такі надпіс прачытала пісьменніца на магіле патрыёткі.

Апавяданне напісана на фактычным матэрыяле і таму яно ўражвае, запамінаецца.

Апошні раздзел кнігі (ён выдзелены асобна) складаюць творы, напісаныя пісьменніцай у выніку паездак за мяжу. Апавяданні «Долька лімона», «Піт едзе ў горад», «Ноччу», «На конкурс прыгажунь», «Вяселле міс Элен» перадаюць карціну капіталістычнага свету, дзе рабочы чалавек занядбаны, змардаваны цяжкай працай, невыноснымі ўмовамі жыцця, дзе антаганістычныя супярэчнасці паралізуюць грамадства.

У нашы дні, калі буржуазная прапаганда яшчэ робіць патугі паказаць аджыўшы капіталістычны свет у ружовым святле, такія творы маюць асаблівае значэнне. Яны вучаць нашага чытача яшчэ больш любіць і цаніць сваю сацыялістычную Радзіму, у якой працоўны чалавек заўсёды агорнуты вялікай павагай і клопатам.

Кніга Аляксандры Ус «Ці даруе?..» знойдзе на маю думку, водгук у сэрцах юных чытачоў, дапаможа глыбей зразумець тыя складаныя пытанні, якія ставіць перад імі жыццё.

**Алесь СТАВЕР.**

Аляксандра Ус. «Ці даруе?..». Выдавецтва «Беларусь», 1969, Мінск.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ДЗЯКУЙ ЗА СВЯТА

Выстаўка дзіцячага малюнка — свята! Свята чысціні, непасрэднасці таленту, жыццярадаснасці...

Дзеці расчыняюць перад намі дзверы ў цудоўны свет. Яны раскладваюць рэальны свет на тысячы часцінак і потым гуляюць імі, бы ў чароўным калейдаскопе складаючы неверагодныя карціны. Дзеці не прымаюць сумны свет прамых ліній і шэрых фарбаў. Яны лёгка знаходзяць падабенства не знешняе, а ўнутранае, дакладнасць не літаральную, а вобразную.

Дзеці ў прастаце сваёй здольны падымацца да сапраўднай сімволікі, да абагульненняў. Свет у іх уяўленні больш прыгожы, чысты і справядлівы, чым на самай справе. У гэтым свеце дабро і праўда заўсёды перамагаюць, героі не паміраюць, дрэнныя і злыя людзі не хаваюцца пад маску, а звяры мірна і бестурботна жывуць побач з людзьмі.

На 22-й Рэспубліканскай выстаўцы дзіцячай творчасці, што адкрылася ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, каля дзвюх тысяч работ, і кожная — маленькі шэдэўр.

Тут і пейзажы — незвычайныя, казачныя, дзе рэчаіснасць пераплятаецца з выдумкай, дзе побач з елкамі растуць баабабы і пальмы, тут і тэматычныя карцінкі, якія расказваюць пра вайну, пра будаўніцтва, пра іншыя планеты, пра знаёмых людзей, пра вучобу і адпачынак, пра сям'ю і сяброў, і партрэты — смешныя і сур'ёзныя, намаляваныя проста алоўкам і «вырашаныя ў колеры». А колькі на гэтай выстаўцы тканых і вышываных пасцілак, ручнікоў, абрусаў, паясоў, колькі прыгожых скульптур з дрэва, гліны, гіпсу, саломкі, кудзелі, бавоўны! Ды хіба пералічыш цуды, якімі здзіўляюць і радуюць нас дзеці.

Ходзіш па залах і забываешся, што ў цябе за плячыма не адзін дзесятак гадоў, што ты даўно ўжо не верыш у тое, што зайцы могуць ездзіць на конях, сланы — рабіць стойку на хобаце, дзіўныя страшыдлы есці цукеркі з рук дзяўчынкі, ваўкі — гуляць у хаванкі з авечкамі...

Ходзіш...
Смяешся...
Захапляешся...
Здзіўляешся...

І верыш! Верыш усяму, што намалявалі маленькія мастакі. Верыш таму, што недзе ў самых патаемных кутках тваёй душы не згасла прага да цудоўнага, неверагоднага, казачнага.

Адзін мастак, кіраўнік дзіцячай студыі, гаварыў мне аднойчы:

— У кожным з нас жыве дзіця. І калі працуеш з дзецьмі, трэба ўмець забыцца на тое, што ты дарослы, трэба ўмець прыслухацца да голасу дзіцяці, што жыве ў табе. Да дзіцячых малюнкаў нельга, нават шкодна падыходзіць з меркамі элементарнай логікі. Іх трэба прымаць такімі, якія яны ёсць. Я ніколі не навязваю дзецям ні тэм малюнкаў, ні тэхнікі, у якой яны іх выконваюць. Гэта гучыць парадаксальна, але я нават не вучу іх маляваць. Я даю ім магчымасць раскрыцца, упэўніцца ў сваіх сілах і магчымасцях.

Відаць, мастак меў рацыю.

Пэўна, нямногія з удзельнікаў выстаўкі абяруць у жыцці прафесію мастака, але любіць мастацтва, заўважаць прыгажосць у жыцці, радавацца гэтай прыгажосці, разумець яе навучацца ўсе.

Ёсць на выстаўцы работы, якія даюць падставу гаварыць і аб прафесійным умельстве дзяцей. Перш за ўсё гэта работы ўдзельнікаў студыі пры Мінскім Палацы піянераў, якой кіруе вядомы мастак і педагог Сяргей Пятровіч Каткоў. «Праз яго рукі» прайшло не адно пакаленне дзяцей, здольных да малявання. Многія з сённяшніх беларускіх мастакоў лічаць яго сваім першым настаўнікам, які даў ім пуцёўку ў вялікае мастацтва. Калі разглядаць асобна работы ўдзельнікаў гэтай студыі, дык можна заўважыць, як тактоўна выхоўвае Сяргей Пятровіч сваіх «птушанят», як уважліва сочыць за іх ростам...

Вось работы яго малодшых выхаванцаў Ігара Кузняцова, Аркадзя Эбара, Броні Абрамавай, Юры Стуліча, Косці Вашчанкі, Наташы Любіч, Лёні Уласовіча, Гены Лаўрэцкага. Тут усё — палёт і фантазія, буйства фарбаў і непасрэднасць. Але чым большыя дзеці, тым больш у іх работах роздуму, прафесійных навыкаў, ведання законаў і правілаў малявання. Малюнкі архітэктурных элементаў нацюрморты, пейзажы... Адчуваецца, што студыйцы разумеюць законы змяшэння фарбаў, лёгка і свабодна валодаюць малюнкам, акварэльнай тэхнікай. Гэтыя работы даюць падставы гаварыць аб іх нават як аб прафесійных.

Вельмі прыемна, што сёлетняя выстаўка мае даволі шырокую геаграфію. Тут работы выхаванцаў Брэсцкага Палаца піянераў, студыі Слаўгарадскай сярэдняй школы № 2, віцебскага Палаца піянераў, студый пры Мінскім камвольным камбінаце, пры домакіраўніцтве № 1 Беларускай чыгункі і іншых.

Выстаўка паказала, што па ўсёй нашай рэспубліцы вельмі многа таленавітых, сапраўды адароных дзяцей. Напэўна не памылюся, калі скажу, што найбольшую цікавасць у наведвальнікаў выстаўкі выклікаюць работы самых маленькіх яе ўдзельнікаў — чатырохгадовага Дзімы Мінца, які намаляваў кракадзіла, і шасцігадовай Асі Пульман, якая стварыла малюнак паводле лермантаўскага «Дэмана». Вось ужо дзе жыццярадаснасць б'е цераз край вось дзе сапраўдны цуд, сапраўдныя чысціня і летуценне!

У пачатку гэтага артыкула я гаварыў, што на выстаўцы шмат работ у розных тэхніках. Прыемна, што дзеці нашы пачынаюць цікавіцца прыкладным мастацтвам, што яны ўсё больш увагі аддаюць жанрам беларускага народнага мастацтва пляценню з саломкі, разьбе па дрэве, кераміцы. Відаць, вялікую ўвагу ўдзяляюць гэтым жанрам кіраўнікі студый пры Брэсцкім Палацы піянераў і пры Палацы культуры прафсаюзаў у Мінску. Работы іх выхаванцаў Светы Міронавай, Лены Іванчык, Лены Куднік, Ігара Міхневіча, Жэні Сечкі вызначаюцца любоўю да нацыянальнай спадчыны, да нацыянальных традыцый, веданнем беларускага фальклору, казак, песень.

Я доўга хадзіў па залах выстаўкі, у захапленні ўглядаўся ў цудоўныя работы беларускіх дзяцей, радаваўся іх аптымізму, святочнаму светаадчуванню, а недзе ў душы карцела:

— Як прыкра, што студыі дзіцячай творчасці пры домакіраўніцтвах — амаль саматужныя, што ім удзяляецца так мала ўвагі, што ўся іх работа трымаецца на чыстым энтузіязме кіраўнікоў.

Я знаёмы з некалькімі такімі студыямі ў Мінску і магу засведчыць, што нават паперу, фарбы, алоўкі іх кіраўнікам часта прыходзіцца купляць за свае грошы. Я ўжо не кажу аб памяшканнях, у якіх працуюць дзеці. Часцей за ўсё гэта пыльныя, цёмныя падвалы, без усялякага абсталявання, без усялякіх прылад.

Вельмі прыемна было сустрэцца на Рэспубліканскай выстаўцы з работамі дзяцей са студыі пры домакіраўніцтве № 1 Беларускай чыгункі, якія былі ў свой час гаспадарамі вернісажу ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва». Цудоўныя малюнкі. Але мала хто ведае, у якіх умовах даводзіцца працаваць дзецям. Доўгія гадзіны праводзяць яны ў гарачым пыльным падвале, побач з кацельняй. Кіраўнік студыі Р. Несцераў, вельмі клапоціцца, каб нават у гэтым непрыстасаваным пакоі стварыць атмасферу ўрачыстасці і святочнасці, але што ён адзін можа зрабіць...

Трэба, каб архітэктары, плануючы новы дом альбо раён, прадугледжвалі не толькі магазіны, майстэрні, цырульні, але і памяшканні для заняткаў дзяцей — пакоі для малявання, спеваў, танцаў... Трэба, каб домакіраўніцтвы ставіліся да студый і іх кіраўнікоў больш добразычліва і ўважліва. Трэба, каб у іх каштарысах былі прадугледжаны рахункі на абсталяванне майстэрань, на матэрыялы...

І ўсё ж выстаўка дзіцячага малюнка — свята. І, як кожнае свята, яна прыносіць радасць і шчасце. Пакідаючы яе, адчуваеш сябе больш шчырым, чыстым, прасветленым. І хочацца сказаць усім юным мастакам, усім іх выхавацелям:

— Вялікае дзякуй за свята!

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

# ПА АБАВЯЗКУ І ПРАВУ

*АЛЯКСАНДРУ ТВАРДОЎСКАМУ — 60 ГАДОЎ*

**Што прыходзіць на думку перш за ўсё, калі ты спрабуеш неяк сабраць свае ўражанні ад творчасці Аляксандра Твардоўскага! Тое, што гэта творчасць вельмі істотная і ў змесце і ў форме. Можна з упэўненасцю сказаць: Твардоўскі ніколі не возьмецца за пяро дзеля дробязнай, пустой нагоды. У голасе Твардоўскага, калі ён разважае пра паэзію, чуюцца нават жарсткаватыя ноты непрыязні. Талстоўска-шчадрынскія, я б сказаў, ноты. І гэта непрыязнь — як жэст адмаўлення той «матыльковай» ці вытанчана-«майстэрскай» паэзіі, якая лічыць, што ўвесь клёк жыцця ў ёй самой. Ох, гэтыя зачараваныя самнамбулы-шаптуны, гэтыя пакутнікі «арыгінальных ходаў», гэтыя ўмельцы прыкідвацца натхнёнымі — няма на іх суддзі бязлітаснейшага, чым Твардоўскі:**

Покамест молод, малый спрос —
Играй. Но бог избави,
Чтоб до седых дожить волос
Служа пустой забаве.

**Не знойдуць, аднак, патуральніка ў Твардоўскім і бяздумныя кан'юнктуршчыкі альбо тыя, хто «творыць» па схемах, высмеяных у паэме «За даллю — даль»: «Глядишь, роман, и все в порядке: показан метод новой кладки, отсталый зам, растущий пред...»**

**З высокай чалавечай годнасцю, вельмі цэласна і натуральна развівае Твардоўскі пакінуты вялікай рускай літаратурай ідэйна-маральны запавет служэння народнай праўдзе. Служэння, зразуметага, як покліч душы, як патрэба і абавязак сумлення. Маральная пазіцыя Твардоўскага, яго непахісная вернасць самым устойлівым і непарушным каштоўнасцям народнай праўды надзейна абапіраюцца на Леніна. Невыпадкова прыводзіць паэт у адным з апошніх сваіх выступленняў, у пісьме да М. В. Ісакоўскага, ленінскае выказванне пра людзей, «за якіх можна ручацца, што яны ні слова не возьмуць на веру, ні слова не скажуць супраць сумлення».**

**У Твардоўскага ёсць усведамленне свайго святога—і ўласцівага кожнаму сапраўднаму мастаку—творчага права: «О том, что знаю лучше всех на свете, сказать хочу. И так, как я хочу». Гэтае неадменнае «як я хачу» ў вуснах Твардоўскага не апалогія прыхамаці і сваволля, а зноў жа глыбока ўсвядомленае прызнанне мастакоўскага права на самастойны пошук і адкрыццё ва ўсіх, без выключэння, галінах творчасці — у змесце і форме.**

**Мяркую, што іменна спалучэнне гэтых трох уласцівых Твардоўскаму якасцей: жывая цікавасць да самых істотных, карэнных падзей і з'яў народнага быцця, устойлівасць маральных крытэрыяў, энергія індывідуальнага пошуку, якраз і далі савецкай літаратуры такія выдатныя творы, як «Краіна Муравія», «Васіль Цёркін», «За даллю—даль».**

**А лірыка Аляксандра Твардоўскага! Як арганічна ўзаемадзейнічаюць у гэтай лірыцы голас паэта і голас героя «эпічнага», як шчыльна яны зліліся ў поўным хвалявання і страсці маналогу-прамове!.. Мінуць гады і дзесяцігоддзі — з небыцця праб'ецца да новых і новых пакаленняў голас салдата, што загінуў пад Ржэвам, яго апаленае агнём і порахам сэрца:**

Ах, своя ли, чужая,
Пал в цветах иль в снегу...
Я вам жить завещаю, —
Что я больше могу?

**Наогул можна разважыць, што ў лірыцы Твардоўскага вельмі глыбока і моцна гучыць матыў «связи обоюдной», непарыўнай еднасці жывых і мёртвых, матыў нашага вечнага доўгу перад тымі, хто загінуў у барацьбе з фашызмам.**

**І ў таго ж Твардоўскага, аўтара быццам адлітай у класічнай бронзе элегіі-рэквіема на памяць паўшых герояў, мы сустракаем празрыстыя, лёгкія радкі пра пачатак вясны, калі «утренний, тоненький ледок натянуло сеткой, но каплет с каждой соломинки, с каждой ветки». І такая нечаканая ў ранішнім сваім настроі лірычная канцоўка: «А что, если снова заново, с начала самого начать нам жить с тобою!..»**

**Усе мы ведаем, з якой вялікай прыхільнасцю ставіцца Твардоўскі да беларускай паэзіі. Мы разумеем і прычыны гэтай прыхільнасці: арганічны дэмакратызм Купалы і Коласа, іх прастата, іх арыентаванасць на агромністы свет прадметаў і з'яў, рэальнай «практычнай» штодзённасці служылі добрай падтрымкай Твардоўскаму, асабліва на пачатку дарогі.**

**Многія факты, здольныя ва ўсёй паўнаце ахарактарызаваць узаемаадносіны Твардоўскага і беларускай савецкай паэзіі, чакаюць яшчэ свайго даследчыка. Так, у свой час нябожчык Андрэй Александровіч расказаў аўтару гэтых радкоў, што Янка Купала быў адным з першых чытачоў (ці, правільней, слухачоў) тады яшчэ не надрукаванай «Краіны Муравіі». Два вялікія артыкулы Твардоўскага пра Аркадзя Куляшова (пра «Сцяг брыгады» і «Новую кнігу») набываюць дадатковы сэнс, калі разглядаць іх у святле творчых асаблівасцей самога Твардоўскага. Можна, нарэшце, паразважаць і над такім пытаннем: чым прывабілі Твардоўскага-перакладчыка радкі М. Сурначова пра «віцязя» ў стаптаным жыце, альбо далёкія ад дасканаласці, але вельмі шчырыя ў чалавечым сэнсе, непрыдуманыя вершы Міколы Засіма!**

**Творчасць Аляксандра Твардоўскага — адна з найбольш яркіх старонак савецкай паэзіі, праўдзівы летапіс зробленага народам у цяжкіх і суровых выпрабаваннях, шчырая споведзь чалавека, які заўсёды жыў на строме сучаснасці, у самым кіпенні яе перажыванняў, падзей і спраў.**

**Рыгор БЯРОЗКІН.**



# НА РОДНАЙ НІВЕ

СПОЎНІЛАСЯ 60 гадоў Антону Антановічу—доктару філалагічных навук, збіральніку і даследчыку старажытных помнікаў беларускага пісьменства.

Нарадзіўся А. Антановіч у вёсцы Казлы Нясвіжскага раёна. Яшчэ юнаком трапіў у Вільню, дзе на той час дзейнічалі беларускія асветніцкія гурткі. Настойліва займаўся там самаадукацыяй, грунтоўна вывучаў гісторыю роднага краю, літаратуру і культуру свайго народа.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Антон Канстанцінавіч Антановіч скончыў Вільнюскі універсітэт. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, пайшоў працаваць у рукапісны аддзел навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта. Тут ён пачаў вывучаць дзелавое беларускае пісьменства XV — XVII стагоддзяў. У 1961 годзе А. Антановіч абараняе кандыдацкую дысертацыю на тэму: «Мова судовай (актавай) кнігі Ковенскага земскага суда 1566—1567 гг». Гэта першая манаграфія, прысвечаная даследаванню мовы такіх помнікаў старажытнага пісьменства.

Але вядомасць А. Антановічу прынесла яго апошняя вялікая праца, якая выйшла ў свет пазалетась — «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма».

Яшчэ працуючы ў рукапісным аддзеле навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, вучоны натрапіў на загадкавыя тэксты, напісаныя арабскімі літарамі. Спярша меўся апісаць толькі адзін які-небудзь тэкст, але праца і праца, руплівая, няспынная, з дня ў дзень, настойлівыя пошукі, сувязь з вучонымі нашай краіны, з вучонымі-славістамі Кракава і Лейпцыга, Варшавы і Уроцлава, намнога пашырылі першапачатковую задуму даследчыка. Дзякуючы карпатлівым працяглым пошукам яму ўдалося выявіць у архівах, бібліятэках, і музеях, а таксама знайсці ў прыватных асоб дваццаць чатыры рукапісы татарска-мусульманскай пісьменнасці XVII—XX стагоддзяў. Так з'явілася манаграфія «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма».

Да А. Антановіча навука мела сякія-такія звесткі пра татарска - мусульманскую пісьменнасць на беларускай мове, аднак грунтоўнага даследавання гэтых цікавых помнікаў не было: цяжка было чытаць такія рукапісы. А тэксты гэтыя — багатая крыніца для многіх галін нашага мовазнаўства, яны даюць выключна каштоўны матэрыял для даследчыкаў. Такія помнікі ідуць ад татараў, якія перасяліліся на Беларусь і ў Літву ў XIV—XV стагоддзях. Праз пэўны час татары-перасяленцы забылі сваю родную мову і пачалі карыстацца беларускай. Паступова беларуская мова стала ў татараў не толькі гутарковай, Ёю напісана і значная частка тэкстаў мусульманскіх абрадаў і рытуалаў, катэхізісы, а таксама ўсходняе свецкае пісьменства — рыцарскія аповесці, прыгодніцкія апавяданні, аракулы.

У сваёй манаграфіі А. Антановіч зрабіў грунтоўную навуковую распрацоўку, даў усебаковую характарыстыку асаблівасцей помнікаў татарска-мусульманскага пісьменства на беларускай мове: расказаў пра гісторыю паходжання, вытлумачыў змест, зрабіў дэталёвы аналіз лексікі, графікі, арфаграфіі і правапісу гэтых тэкстаў. Вучоны і зараз працягвае інтэнсіўныя пошукі, вывучэнне і даследаванне старажытных рэліквій беларускага пісьменства.

Словам, і сёння юбіляр у дарозе, і сёння ён з нязгасным натхненнем працягвае сваю ўдзячную і пачэсную справу.

Міхась ТОНДЗЕЛЬ.

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# РЭДКАЯ КНІГА КАПІЕВІЧА

У СХОВІШЧЫ старадрукарскіх кніг Гданьскага аддзялення бібліятэкі Польскай акадэміі нядаўна знойдзена надзвычай рэдкая кніга, якой няма нават у найбольш вялікіх бібліятэках свету — першая руская граматыка, складзеная па даручэнні цара Пятра Першага выдатным вучоным-беларусам Ільёй Фёдаравічам Капіевічам.

Кніга Капіевіча настолькі рэдкая, што нават манументальная польская бібліяграфія К. Эстрэйхера прыводзіць яе загаловак па чутках, з памылкамі. Кніга выйшла ў Гданьскай друкарні Гольца, дзе спецыяльна для выдання рускіх кніг былі набыты «словена-рускія» шрыфты.

Ілья Фёдаравіч Капіевіч па асабістым указанні Пятра І распрацаваў першапачатковыя абрысы «рускаго» друкарскага шрыфту. Пры гэтым ён кіраваўся накідамі самога цара. Ёсць сведчанне Фёдара Палікарпава, дырэктара Маскоўскай друкарні, аб тым, што цар «своим неусыпным тщанием изволил изобрести абецедал русский». Шрыфт гэты потым лёг у аснову беларускага шрыфта XIX стагоддзя. Капіевіч не толькі распрацаваў графічны малюнак шрыфту, але наглядаў за яго адліўкай, за друкаваннем гэтым шрыфтам першых рускіх кніжак, якія выдаваліся па загадзе Пятра Першага ў Амстэрдаме.

У Галандыі XVII стагоддзя было шмат выдавецтваў, там працавалі буйнейшыя друкарні Еўропы. Расія давала кнігавыдаўцам вялікі рынак, таму ў Маскве, на Белай Русі і на Украіне адчувалася велізарная патрэба ў «грамадзянскай» кнізе, асабліва навуковага зместу.

Рускім кнігадрукаваннем у Амстэрдаме цікавіўся, у першую чаргу, Ілья Фёдаравіч Капіевіч, беларус па паходжанні, вучоны, гуманіст, які цудоўна валодаў друкарскай тэхнікай таго часу.

Ураджэнец мінскай зямлі, ён ведаў беларускую, рускую, польскую і лацінскую мовы, а пазней — галандскую і французскую. Гэта быў чалавек шырока адукаваны. Яго веды мелі энцыклапедычны характар. Вучыўся ў Магілёве, прадоўжыў сваю адукацыю ў Галандыі, дзе быў выбраны галавою амстэрдамскай абшчыны.

Цар Пётр у час наведання Амстэрдама пазнаёміўся з Капіевічам, які зрабіў на яго вялікае ўражанне. Царскім указам 1699 года Капіевічу было дадзена званне «кніжных спраў майстра» і «патэнт» для выдання «шматлікіх кніжак» на рускай мове.

Капіевіч завязаў блізкія адносіны з амстэрдамскім друкаром Тэсінгам. У яго друкарні Капіевіч выдаў шэраг рускіх кніг — больш дваццаці назваў. Аўтарам і складальнікам быў ён сам. Ён складаў і перакладаў слоўнікі, падручнікі, атласы па геаграфіі, дапаможнікі па мараплаванні, падручнікі навігацыйнай справы, яго пяру належыць першая руская «Гісторыя» аб падзеях часоў Рымскай імперыі. Займаўся ён і паэзіяй — упершыню пераклаў на рускую мову «Прытчы Эзопавы».

Ілья Фёдаравіч Капіевіч быў не толькі вучоным, але і выдатным педагогам. Гэта ён вучыў рускую моладзь, прысланую ў Галандыю па асабістым указанні Пятра Першага.

У 1700 годзе Капіевіч адкрывае ў Амстэрдаме сваю «рускую» друкарню і разыходзіцца з друкаром Тэсінгам. У гэтай друкарні надрукаваны шэраг дапаможнікаў і падручнікаў, што мелі практычнае значэнне. Амстэрдамскія выданні друкаваны першым узорам «гражданкі». Гэта ў асноўным яшчэ кірыліца, але без скарачэнняў, з увядзеннем некаторых знакаў лацінскага абрысу. Друкарня Капіевіча, аднак, паступова пераходзіць да ўдасканаленай, паводле ўказання цара, «гражданки».

Каля 1705 года Капіевіч пераязджае ў Гданьск, каб арганізаваць тут рускую кнігавыдавецкую справу — бліжэй да рускай граніцы. Сенат, аднак, не дазволіў адкрыць друкарню ў Гданьску. Тады Капіевіч пры дапамозе друкара Хрысціяна Гольца, уладальніка друкарні ў Стахцэнбергу, што каля Гданьска, пачынае там друкаваць рускія кніжкі. З гэтай мэтай друкарня Гольца атрымлівае з Амстэрдама рускі шрыфт. У Стахцэнбергу з-пад друкарскага варштата выходзяць лацінска-руская граматыка «Руководение в грамматыку славяноросийскую или московскою». (На нашым здымку экземпляр гэтай граматыкі, знойдзены нядаўна ў Гданьску).



MANUDUCTIO IN GRAMMATICAM.
In Sclavonico Rossenam.
Seu Moscoviticam,
In Usum discentium linguam Moscoviticam.
Per ELIAM KOPIJEWITZ, V.D.M.
Anno 1706,
Ejusdem impensis & Typis.
STOLTZENBERGI,
Excudebat, CHRISTIANUS PHILIPPUS GOLTZIUS.

Кнігі Капіевіча карысталіся ў Расіі вялікай папулярнасцю. У 1712 і 1717 гадах у Расіі былі перавыдадзены «Прытчы Эзопавы», перакладзеныя на рускую мову Капіевічам. У 1718 годзе перавыдадзены складзены ім жа «Руска-галандскі слоўнік», у 1719 годзе — кніга «Ствалы і эмблематы».

Руская мова Капіевіча змяшчае ў сабе шмат беларускіх слоў, якія яшчэ раз сведчаць аб яго беларускім паходжанні.

У Гданьску Капіевіч пражыў тры гады, а потым выехаў у Маскву, дзе, аднак, доўга не прабыў. Пасля няўдалай спробы адкрыць там сваю друкарню, расчараваны Капіевіч вярнуўся ў Галандыю і памёр у 1711 годзе, у вялікай нястачы.

Трэба дадаць да сказанага, што ў 1970 годзе спаўняецца 270 гадоў з пачатку кнігавыдавецкай дзейнасці Ільі Фёдаравіча Капіевіча — выдатнага вучонага-гуманіста, друкара, асветніка, выдаўца і педагога.

**Панцеляймон ЮР'ЕЎ.**

Юзаф АПАЛЬСКІ

# Эдзіт Піяф — ЗАБЫТАЯ ЛЕГЕНДА?



Вось ужо сем гадоў, як мы перасталі чакаць яе новых праграм, новых пласцінак. Час ад часу з'яўляецца чарговая пераймальніца, якая праз месяц-другі робіцца гаснучай зоркай або нават блішчыць роўным святлом, але ж наколькі слабейшым, чым святло яе — самай вялікай зоркі. Зоркі кіно, тэлебачання і асабліва эстрады здабываюць у наш час шалёную папулярнасць і праз некаторы час адыходзяць у забыццё. У гісторыі песні побач з імем вялікай Эдзіт можна паставіць толькі адно імя — Івет Жыльбер. Не буду параўноўваць — нічога гэта не дасць, але толькі муза Тулуз-Латрэка і Піяф пакінула пасля сябе нешта большае, чым памяць пра вялікі талент — яна пакінула легенду! Як жа нарадзілася гэта легенда, як жанчына, так мала эфектная знешне, нічым не падобная на «зорку», здолела стварыць вакол сябе міф і абудзіць усеагульнае захапленне? І тут пачуюцца галасы — «Але ж талент...»

Што ж гэта быў за талент, якая гэта была артыстычная з'ява, — Піяф? Ці рашаў тут што голас? Несумненна: быў гэта незвычайны і захапляючы голас і ў той жа час далёкі ад бельканта. Ахрыплы, знішчаны і, нягледзячы на гэта, — з нечуванай сілай выяўлення. Некалькі сталых эфектаў, якімі карысталася спявачка — гэта: спецыяльны, выразны спосаб вымаўлення звычнага «р», некалькі вострых крыкаў, характэрныя расцягванні, чоткая дыкцыя і, нарэшце, славуты ўнутраны смех. Да гэтых рысаў далучалася і максімальна аскетычная эстрадная інтэрпрэтацыя. Эдзіт амаль заўсёды стаяла нерухома перад мікрафонам, рукі свабодна апушчаны або моцна прыціснуты да бёдраў, і толькі ў час вялікага драматычнага напружання Эдзіт паднімала іх угору, нібы ёй не хапала дыхання, нібы хацела дапамагчы сваійму беднаму горлу і выкрычаць роспач, боль або каханне, заключаныя ў трагедыях, пра якія спявала.

Была, аднак, песня, якую Піяф спявала інакш. Гісторыя пра маладых, якіх звёў і разлучыў натоўп, — выконвалася зусім інакш. У рэфрэне, які меў рытм вальса, Эдзіт як бы тармазіла аркестр, яўна спазняючыся ў рытме. Гэта стварала нечуваны эфект бурлівага тлуму. У канцы песні, калі аркестр усё хутчэй і грамчэй іграў рэфрэн, Піяф падымала рукі і сыходзіла са сцэны. Хто бачыў гэту інтэрпрэтацыю, ніколі яе не забудзе.

Няма ніякага сумнення, што ў спявачкі быў вялікі акцёрскі талент.

Рэпертуар Піяф быў якраз даволі банальны; могучы карыстацца лепшымі паэтычнымі сіламі, яна цягнулася да меладраматычных тэкстаў, часам вельмі блізкіх да яўнай халтуры. Аднак, калі яна пачынала расказваць гэтыя часта зусім плоскія гісторыйкі, адбывалася нешта дзіўнае — яны выраслі да памераў трагедыі, уражвалі людзей незвычайнай глыбінёй пачуццяў. Адначасова ў Піяф было нечувана тонкае адчуванне вялікага мастацтва. Дастаткова сказаць, што гэтай дачцы парыжскіх вуліц, не вельмі начытанай і выхаванай, як гарачай кінаманцы найбольш спадабаліся два фільмы: «Хірасіма — любоў мая» і «Браняносец «Пацёмкін».

Калі б пісаць яе біяграфію, то можна было б скласці шмат тамоў. Вядома: страшнае дзяцінства, слепата, «кар'ера» вулічнай дзяўчыны, абвінавачванне ў забойстве, чарговыя скандалы і раманы, вяршыні славы, нечуваная любоў да сваёй публікі і ўцёкі са шпіталю, каб выступіць і г. д. Гэта добра вядомыя гісторыі і яны стварылі спявачцы німб таямнічасці, міф жанчыны, якая ўвесь час змагаецца за жыццё і шукае вялікага кахання. Калі прыгадаць такія факты, як наркаманія і п'янства і нечуваную прымхлівасць (вера ў зоркі, заключэнне кантракта ў шчаслівы чацвер, страх перад няўдалымі нядзелямі), то мы будзем мець вобраз Эдзіт — жанчыны незвычайнай.

Нічога дзіўнага, што пра жыццё Піяф знята некалькі фільмаў, напісана шмат кніг. Глянем цяпер на другі элемент легенды — на тое, як спявачка расказвала пра сябе.

Можна прывесці сотні інтэрв'ю, зарэгістраваных гутарак, тэлевізійных рэпартажаў, але асновай для разважанняў будзе кніга ўспамінаў, напісаная самой Піяф — «Маё жыццё». Гэта не дробязь у нашай мазаіцы, бо шчырасць і адвага, з якімі Эдзіт гаворыць пра сябе — не апошняй пробы. Усе ведалі пра бясконцыя няўдалыя раманы і любоўныя няўдачы спявачкі. Але толькі яна адкрыта сказала, колькі людзей яна сама паспела зрабіць няшчаснымі. Яна растаптала вялікае каханне Такіса Менеласа, яе шлюб з Ж. Пілам распаўся па яе віне; а колькі павінен быў выпакутаваць праз яе Поль Мёрыс? Прыклады можна падоўжыць. Яна не была анёлам — яе чарговыя любоўныя авантуры прывялі да таго, што яна здабыла сабе славу лёгка даступнай жанчыны.

Піша пра гэта, зрэшты, вельмі шчыра: «Як далёка я зайшла, зразумела ў дзень, калі ў свой нумар у атэлі «Вальдорф-Асторыя» ў Нью-Йорку запрасіла на абед сяброў і кінаакцёра Джона Глендэла. Пасля абеду я правяла гасцей да дзвярэй. Калі вярнулася ў салон, Джона там не было. Шукала я яго ўсюды і нарэшце знайшла ў сваім ложку, зусім голага. З поўнай упэўненасцю ў сабе ён ляжаў і курыў». І яшчэ адна цытата: «Калі я памру, ніхто не будзе ведаць, якой я была на самай справе, — так многа пра мяне расказана... Таму я рашыла на бальнічным ложку прадыктаваць гэтыя ўспаміны, — нават калі гэта выкліча скандал або памілаванне. Гнятуць мяне мае найінтымнейшыя сакрэты, якія скажона перадаюцца публічна. Я вяла страшнае жыццё, гэта праўда. І ў той жа час — жыццё цудоўнае. Любіла яго, любіла людзей: мужчын, сваіх каханкаў, сваіх сяброў, але таксама і незнаёмых, маю публіку, тых, для каго спявала да мяжы фізічнай знямогі, для каго хацела б памерці на сцэне пад канец апошняй песні».

Калі б сабраць усе пагудкі пра Піяф — з іх быў бы вялізны том. Абмяжуюся толькі трыма выказваннямі — спевака, паэта і публіцыста — людзей розных прафесій, аб'яднала якіх, аднак, агульнае захапленне вялікай спявачкай.

Іў Мантан: «У Эдзіт Піяф залатое сэрца: дастаткова паслухаць, як яна спявае, каб пераканацца ў гэтым».

Жан Кокто: «Эдзіт Піяф, якая даследуе сябе і сваіх слухачоў, вельмі хутка знайшла сваю манеру. І вось голас, які ідзе з нутра, які жыве ва ўсёй ёй ад ног да галавы, абрынае хвалю чорнага аксаміту. Гэтая цёплая хваля нас залівае, прашывае, захліствае. Эдзіт Піяф, як нябачны на галінцы салавей, сама робіцца нябачнай. Застаюцца толькі яе вочы, яе бледныя рукі, васковы лоб і гэты голас, які мацнее, узносіцца, спакваля займае яе месца і, растучы, як яе цень на сцэне, горда заступае яе дробную і нясмелую постаць. З гэтай хвіліны геній мадам Эдзіт Піяф робіцца бачны, і кожны яго можа ўгледзець. Яна сама сябе перарастае, перарастае свае песні. Перарастае музыку і словы. Яна нас перарастае. Душа вуліцы пранікае ва ўсе пакоі горада. Гэта ўжо не мадам Эдзіт Піяф спявае: гэта дождж, які падае, вецер, які свішча, гэта месяц, які раскідае свой вэлюм».

І нарэшце Аўгуст Градзіцкі: «Эдзіт Піяф — адна. Яна клас для самой сябе. Толькі за гэтым класам ці нават ніжэй яго можна ставіць у іерархіі вартасці іншых спявачак, параўноўваць іх паміж сабой, ацэньваць... Але ў будучым, у гісторыі — ужыву гэта ўрачыстае слова — толькі адна Піяф застанецца ў гэтай галіне самай вялікай выказальніцай эпохі як артыстка, якую будуць успамінаць з подзівам, непаўторная, неперавзыдзеная».

Ці можна што-небудзь дадаць да гэтых слоў? Парыж захапляўся многімі «зоркамі» — шалеў ад Івет Жыльбер і цудоўнай Містэнгет, цаніў Івону Жорж і Рашэль, сплываліся цэлыя тлумы, каб убачыць «больш парыжскую, чым сам Парыж» Жазефіну Бекер, — а Эдзіт Піяф любілі! Была гэта простая і шалёная любоў і — бясконца адданая. Бо толькі яе хібы і скандалы былі апрабіраваны, бо толькі да яе прыйшоў развітацца стотысячны натоўп, які напярэдадні пахавання праплыў праз яе пакой, бо толькі слухаючы яе песні, плакалі прадаўшчыцы пласцінак, калі яна хварэла, бо толькі ёй асісціравала група людзей, якія прысвяцілі ёй усё (напрыклад, Маргарыт Мано — вучаніца Маргарыты Лонг і Альфрэда Карто, адна з самых вялікіх дам Парыжа, якая кінула сваю кар'еру, каб акампаніраваць і пісаць песні Піяф). Легенда «парыжскага верабейкі» жыве — як у песеньцы, словы якой напісала сама Эдзіт на музыку Жыльбера Беко. Легенда жыве — і хай жыве як найдаўжэй...

(«Рух музычны», № 3, 1970).
Пераклад з польскай.

